Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 27 (4725) 12 ліпеня 2013 г.

## Пункціратм

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Зінаіду Кірыенка з юбілеем. «У Беларусі сотні тысяч паклоннікаў ведаюць і любяць Вас як актрысу вялікага таленту, якая пакінула свой след і ў беларускім кінематографе», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы таксама накіраваў віншаванні народнаму артысту РСФСР Андрэю Мягкову з 75-годдзем і народнаму артысту Расійскай Федэрацыі Дзмітрыю Пяўцову — з 50-гадовым юбілеем.

✔ Абсталяванне і сыравіну для вытворчасці слуцкіх паясоў, што ўвозяцца ў Беларусь, вызваляць ад мытных пошлін. Адпаведны ўказ № 308 «Аб некаторых пытаннях арганізацыі вытворчасці і рэалізацыі слуцкіх паясоў» Кіраўнік дзяржавы падпісаў 8 ліпеня. Дакумент прыняты ў межах рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы адраджэння тэхналогій і традыцый вырабу слуцкіх паясоў і развіцця вытворчасці нацыянальнай сувенірнай прадукцыі «Слуцкія паясы» на 2012 — 2015 гады.

✔ Кошт прызоў, якія ўручаюцца канкурсантам Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» Парламенцкім сходам саюза Беларусі і Расіі, павялічаны ў сярэднім у 2,5 раза. Традыцыйна па выніках фестывальных конкурсаў спецыяльныя прызы будуць уручаны лепшым выканаўцам эстраднай песні ад Беларусі і Расіі, а таксама ўдзельнікам Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу. Сёння на «Славянскім базары ў Віцебску» — Дзень Саюзнай дзяржавы.

✔ Беларусь зацікаўлена ў культурным супрацоўніцтве з Інданезіяй і Бангладэш. Пра гэта паведаміў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. У бліжэйшым будучым запланавана заключэнне пагадненняў аб культурным супрацоўніцтве з гэтымі краінамі. Паводле кіраўніка ведамства пашыраюцца стасункі з В'етнамам, Кітаем, Іранам, ААЭ, Сербіяй, Малдовай. Пры гэтым міністр адзначыў актыўнае ўзаемадзеянне з Расіяй, Украінай, Літвой, Польшчай, Азербайджанам, Арменіяй і Казахстанам.

✔ Пачынаецца агляд спектакляў для Мінскага форуму вулічных тэатраў. Адбіраць канкурсантаў будуць на працягу лета ў выхадныя дні кожныя два тыдні. Найлепшых выберуць гледачы пасля паказаў на пешаходнай вуліцы Карла Маркса. Узяць удзел у форуме могуць прафесійныя і аматарскія калектывы, якія працуюць у жанры пантамімы, кантактнай імправізацыі, лялечныя тэатры, ролевыя, танцавальныя групы, вулічныя паэты, фокуснікі. Свята вулічных тэатраў, прымеркаванае да Дня горада, плануецца правесці 14 і 15 верасня.

✔ З 26 па 31 жніўня Інстытут імя Гётэ ў Мінску праводзіць у музеі «Замкавы комплекс «Мір» музычную летнюю акадэмію «Дрэздэн — музыка пры двары Аўгуста Саксонскага». Каля 40 удзельнікаў з Беларусі, Германіі, Польшчы і ЗША прыедуць у Мірскі замак, каб у атмасферы старажытных сцен узяць удзел у серыі музычных майстар-класаў. Па вечарах будуць арганізаваныя дыскусіі і даклады па тэме мінулага і будучага старажытнай музыкі розных кірункаў. Мастацкае кіраўніцтва летняй акадэміяй ажыццяўляюць Сэзана Рэгель (Германія) і Крыстаф Хамер (Германія — ЗША). З беларускага боку іх падтрымае Уладзімір Неўдах.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ



# Будслаў: чатыры стагоддзі веры

Фота БелТА



5 — 6 ліпеня беларусы адзначылі 400-годдзе знаходжання цудатворнага абраза Божай Маці ў Будславе. «Рымска-Каталіцкая Царква за час існавання на беларускай зямлі аказала значны ўплыў на адметнасць культуры і гістарычнага лёсу нашага народа», — гаворыцца ў прывітальным слове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам будслаўскіх урачыстасцей.

**Ірына ТУЛУПАВА**

Гісторыя гэтага свята пачалася больш як чатыры стагоддзі таму, калі Папа Клімент VIII падарыў абраз Божай Маці Мінскаму ваяводзе Яну Пацу. Праз нейкі час святыню перадалі ў касцёл у Даўгінава. Але менавіта 400 гадоў таму з вялікай пашанай ён быў перанесены ў Будслаў і з таго часу не пакідаў касцёла. Цяпер абраз Будслаўскай Багародзіцы лічыцца цудатворным. Як рэліквія ён клапатліва захоўваецца ў храме Узнясення Прасвятой Дзевы Марыі. Штогод на пачатку ліпеня пакланіцца беларускай святыні збіраюцца дзясяткі тысяч вернікаў.



Юбілейныя ўрачыстасці сталі знакавай падзеяй у жыцці нашай краіны. Падобнае свята адбылося некалькі год таму ў Літве, у Шылуве. Там таксама святкавалася 400-годдзе санктуарыя. Але свята ў Будславе — не толькі каталіцкае, яно становіцца нацыянальным. Да таго ж у Беларусі пакланенне Божай Маці мае гістарычныя карані. «Нашу краіну можна назваць Terra Maryana — зямля дзевы Марыі. Калі паездзіць па парафіях, то большая іх частка, як і касцёлаў, мае тытулы Божай Маці. Гэта знак таго, як Беларусь даверае Багародзіцы і праз яе ідзе да Езуса», — заўважыў у гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» Мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. 2013-ы аб'яўлены ў Беларускім Касцёле Годам веры. Копія абраза Будслаўскай Божай Маці пэўны час вандравала па ўсіх парафіях Беларусі. У дзень асаблівага ўшанавання яе прынеслі з Даўгінава на руках — паўтараючы даўні гістарычны шлях. Прымаючы да ўвагі значнасць падзеі, якая адбываецца ў Беларусі, на ўрачыстасці прыбыў легат Папы — кардынал Жан-Луі Таран, які з'яўляецца старшынёй Папскай рады па міжрэлігійным дыялогу. Гэта той чалавек, які 13 сакавіка з балкона базілікі святога Пятра абвясціў пра абранне новага Папы Францішка. І менавіта ён правёў літургію ў Будславе 6 ліпеня. На наступны дзень, 7 ліпеня, кардынал Жан-Луі Таран узначаліў святую імшу ў Мінскім архікатэдральным касцёле. Пабываўшы ў нашай краіне, папскі легат прызнаўся: «Тут я ўбачыў жывы Касцёл, які імкнецца ў будучыню. Вернікі каталіцкай супольнасці Беларусі з'яўляюцца прыкладам сапраўдных хрысціян, якія не баяцца сведчыць і паказваць сваю веру». Легат паабяцаў, што прыкладзе ўсе намаганні, каб Папа Францішак наведаў Беларусь.

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶

## Будслаў: чатыры стагоддзі веры

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Кардынал не толькі ўзяў удзел у юбілейных урачыстасцях у Будславе, але і правёў сустрэчы на дзяржаўным узроўні, сустрэўся з Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам. На Імшу ў Будслаў прыбылі таксама старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка, прадстаўнікі органаў дзяржаўнай улады, дыпламатычных місій.

На святе адбылося гашэнне маркі з выявай Будслаўскага абраза Божай Маці. Выпушчаны так званы паштовы блок тыражом 15 тысяч экзэмпляраў, у які ўваходзяць марка, канверт, штэмпель і манеты, якія ўжо ўвёў у абарачэнне Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь. Усяго ж да ўдзелу ў хрысціянскіх урачыстасцях спрычынілася каля паўсотні тысяч беларусаў і гасцей нашай краіны.

*Ініцыятывы*

# «Блінок…» закаціўся ў «Зубронак»

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Выдавецкі дом «Звязда» распачалі творчую акцыю «Пісьменнікі — дзецям».

**Сяргей МІКУЛЬЧЫК**

А першая сустрэча на гэтую тэму прайшла на беразе возера Нарач, у слаўтым дзіцячым лагеры «Зубронак». Сэнс задуманага і ўжо распачатага праекта — у пашырэнні кола цікаўных да беларускай літаратуры юных чытачоў. Найперш — у пашырэнні прасторы дзіцячай літаратуры. Адкрыла акцыю ўступным словам першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Яна расказала пра тую ўвагу, што надаецца дзяржавай айчыннаму кнігавыданню. Пра навінкі Выдавецкага дома «Звязда» распавёў яго дырэктар-галоўны рэдактар Алесь Карлюкевіч. Рэдактар выдавецтва Вольга Аляксеева пазнаёміла прысутных (а былі сярод іх і дзеці, што прыехалі ў Беларусь з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Казані) са зборнікам аўтарскай казкі «Куды блінок закаціўся». Удзел у першай сустрэчы ў межах акцыі «Пісьменнікі — дзецям» узяў і добра вядомы празаік, драматург, паэт Генадзь Аўласенка. Саюз пісьменнікаў Беларусі неаднойчы адзначаў яго творчасць, адрасаваную дзецям. Генадзь Аўласенка расказаў пра героя, якому прысвечаны ўжо цэлы «серыял» яго кніг — Маленькага Вятрыску з Вентылятара. Дарэчы, адзін са зборнікаў казак, прысвечаных гэтаму герою, аформілі самі юныя чытачы. На сустрэчы нарадзілася ідэя запрасіць да афармлення наступных кніг пра Вятрыску юных мастакоў, якія адпачываюць ці будуць адпачываць у «Зубронку».



*Арганізатары акцыі «Пісьменнікі — дзецям» разам з юнымі чытачамі.*

З цікавым расповядам пра новыя аспекты дзіцячага кнігавыдання выступілі на сустрэчы ў «Зубронку» намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут і загадчык аддзела маркетынгу Ала Завадская.

Пісьменнікі і выдаўцы ўзялі ўдзел у конкурсе чытальнікаў, які адмыслова да правядзення акцыі наладзілі «зубронкаўцы». Хлопчыкі і дзяўчынкі чыталі творы Кандрата Крапівы, Максіма Танка, Івана Кірэйчыка. А таксама — свае ўласныя вершы.

# Мастацкая хваля срэбнага стагоддзя

Выстаўка мастацкіх работ з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча пачала працаваць у Мастацкім музеі, філіяле Віцебскага абласнога краязнаўчага музея ў межах правядзення Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

**Таццяна ШЫМУК**

Пачатак XX стагоддзя ва ўсім свеце багаты на геніяльныя творы паэтаў, музыкантаў, мастакоў. «Срэбнае стагоддзе» ў літаратуры, новыя плыні ў мастацтве і новыя адкрыцці ў свядомасці творцаў. Сусветнае мастацтва адзначана пошукамі не толькі новай мастацкай формы, але і мастацкага мыслення ўвогуле. У гэтым рэчышчы працуюць вядомыя мастакі Парыжскай школы і нашы суайчыннікі Марк Шагал, Хаім Суцін, Восіп Цадкін. Мастацкая культура ўзбагачаецца і творамі вядомых мастакоў-наватараў, сярод якіх У. Татлін, І. Клюн, П. Львоў і А. Архіпенка, сучаснікі Максіма Багдановіча.

Сёння мы не можам упэўнена сказаць, ці былі знаёмыя паміж сабой майстры графікі і майстры слова. Несумненна адно: і паэзія М. Багдановіча, і малюнкі мастакоў таго часу яскрава адлюстроўваюць пачатак новага стагоддзя з яго няяснымі трывогамі і надзеямі. І малюнак, і слова адрозніваюцца самабытнасцю, непадабенствам да модных на той час твораў еўрапейскіх аўтараў. І пэндзаль, і пяро прасякнуты любоўю да роднага краю. Гэта пачуццё нараджае і лірычнасць, і драматычнасць, а ў некаторыя моманты і трагізм.



*Уладзімір Татлін «Дом у Астрожскім завулку», папера, гуаш. 1915 г.*

Іван Клюн (Клюнкоў, 1870 — 1943) — мастак, тэарэтык, аўтар трактата «Мастацтва колеру». У яго работах —назіральнасць, дасціпнасць, пяшчота, тэмперамент. Тут ёсць ню і архітэктурныя замалёўкі, аўтограф і малюнкі для падручніка па батаніцы, гістарычныя накіды, вясковыя краявіды.

Аляксандр Архіпенка (1870 — 1964) — украінскі і амерыканскі мастак-наватар. У пачатку XX стагоддзя яго творы перавярнулі ўсе сусветныя ўяўленні пра скульптуру. Ён выкарыстаў прастору «ўнутры» і «пустэчу» як выяўленчы элемент, роўны матэрыяльнаму. Пластыка, рух, канструкцыя і канструктыўнасць, лірычнасць — прызнаныя якасці твораў гэтага майстра.

Накіды жывапісца, графіка і педагога Пятра Львова (1882—1944) уражваюць той збалансаванасцю і тонкасцю рытмаў, якія ў мастацтве найбольш дакладна адпавядаюць паняццю «музычнасць». Далікатнае харaство вертыкальных ліній выклікае адчуванне высокага, празрыстага гуку, пачутага аднекуль здалёк. Сучаснік срэбнага стагоддзя Пётр Львоў быў прыхільнікам культу характва і заставаўся верным яму праз усё жыццё.

Уладзімір Татлін (1885 — 1953) адыграў выключную ролю ў развіцці канструктывісцкага кірунку. «Дом у Астрожскім завулку» — твор цудоўны і дасканалы, як паэзія. Ракурс бачання знішчае прамыя вуглы, статыка змяняецца дынамікай. Узнікае ілюзія паралельнага руху, і глядач адчувае сябе не на балконе суседняга будынка, а ўнутры загадкавай паветранай машыны, што не толькі адлюстроўвае, але і пераўтварае свет.

Выстаўка пазнаёміць з мастацкай хваляй часоў М. Багдановіча жыхароў Віцебска і гасцей фестывалю. Гэты праект будзе адным з кірункаў папулярызацыі фондаў музея беларускага паэта.

# Некабінетны аўтар

Лёс яе ўнікальны: нарадзілася на Браншчыне, у Расіі, сям'ю стварыла ў Віцебску — сям'ю ўласную і… літаратурную. Так, дзякуючы яе намаганням Віцебскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі колькасна павялічылася ўтрая. Лаўрэат Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Ф. Цютчава, медаля Францыска Скарыны, аўтар каля двух дзясяткаў паэтычных зборнікаў, актыўны грамадскі дзеяч, чуллівая жанчына — усё гэта пра Тамару Краснову-Гусачэнка.

**— Шаноўная Тамара Іванаўна, да вашых шматлікіх узнагарод далучылася яшчэ некалькі — віншуем!**

— Так, медаль "За вялікі ўклад у літаратуру" ад Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вельмі пачэсна атрымаць яе, таксама як памятны адрас-падзяку ад Расійскага ўрада «За вялікі ўклад ва ўмацаванне сяброўства паміж расійскім і беларускімі народамі». Узнагароды былі ўручаныя ў Віцебскім аблвыканкаме і сталіся вельмі хвалюючым падарункам да юбілею.

**— Чым збіраецеся парадаваць чытачоў сёлета?**

— У Выдавецкім доме «Звязда» рыхтуецца мая кніга для дзяцей. З назвай пакуль не вызначыліся: «Дзіцячы свет» або «Вершы і казкі дзецям пра ўсё на свеце». З выхадам я мае адбыцца прэзентацыя, якая стане таксама юбілейным творчым вечарам.

**— Ваша праца над прэзентацыяй кніг — жывы кантакт з чытачом — не можа не выклікаць павагі: за год — некалькі дзясяткаў паэтычных сустрэч. Відавочна, што вы — не «кабінетны» аўтар…**

— Пасля сустрэч, калі яны адбываюцца ў бібліятэцы, істотна павялічваецца колькасць чытачоў — аўтара і бібліятэкі. Але гэта не адзіны фармат. Якраз днямі прайшло паэтычнае свята ў Ляўках «Гучыць купалаўская паэзія». Я з вялікім хваляваннем распавядала там пра Купалу, чытала яго і свае вершы. Свята было цудоўнае, шчырае. Вянкі, пушчаныя па рацэ ў Ляўках, апоўначы сустракалі ў Александрыі. Гэта і ёсць жывое натхненне.

**— Не так даўно вам давялося прымаць гасцей… Я маю на ўвазе вандроўку членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі па Віцебскай вобласці. Вялікі дзякуй за гасціннасць, за створаны вамі і вашымі паплечнікамі выдатны эмацыянальны фон успрымання ўражанняў.**

— Перад тым, як прыняць дэлегацыю Саюза пісьменнікаў, мы аб'ездзілі літаральна ўсю вобласць, дбалі пра ўсё: пра адбор кніг для выстаўкі ў музеі, пра сустрэчу на Шунеўскім мемарыяле, нават пра самыя зручныя аўдыторыі ў Полацкім універсітэце і харчаванне. Спадзяюся, што нашы літаратары засталіся задаволеныя.

Гутарыла **Таццяна СТУДЗЕНКА**

# У Рускім – прэм'ера

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

Сёння ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага адбудзецца прэм'ера музычнай сямейнай трагікамедыі «Аракул?..» паводле п'есы «Зацюканы апостал» Андрэя Макаёнка ў пастаноўцы народнага артыста Беларусі рэжысёра Барыса Луцэнкі.

Да пастаноўкі гэтага твора упершыню майстар звярнуўся яшчэ ў 1970 годзе. Тады спектакль адбыўся на сцэне Купалаўскага тэатра — літаральна праз год пасля напісання п'есы класікам беларускай драматургіі Андрэем Макаёнкам. Аднак гэтым разам Б. Луцэнка вырашыў пайсці па іншым шляху, асучаснім спектакль і нават змяніўшы назву на «Аракул?..» Пад уплывам уласнай пастаноўкі 2004 года, вядомай гледачам рок-оперы «Анджэла і іншыя…» па творах А. С. Пушкіна, рэжысёр разам з кампазітарам Аляксеем Ераньковым прадоўжылі пошук музычнага дыялогу. Гэтым разам менавіта музыка і цудоўныя балады-зонгі сталі асновай спектакля.

Новая пастаноўка Б. Луцэнкі — гэта няпростая гісторыя пра сям'ю, найскладанейшыя ўзаемаадносіны дзяцей і бацькоў. Пераднавальнічная атмасфера ў доме, непаразуменне паміж бацькам і маці сталі штуршком для разумнага не па гадах 11-гадовага сына, якому падаецца, што ён у стане спасцігнуць свет і прадказваць падзеі, нібыта аракул.

У галоўнай ролі — абаяльны, пластычны і таленавіты артыст Рускага тэатра Уладзімір Глотаў.

# Панцеляймон Панамарэнка: дакументы, аўтографы, кнігі

**Сяргей ШЫЧКО**

У Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга, падрыхтаваная намаганнямі беларускіх і расійскіх архівістаў, бібліятэкараў і музейных работнікаў, — «Панцеляймон Панамарэнка: асабісты архіў і кніжны збор: зводны каталог» (укладальнікі — В. Скалабан, М. Афанасьеў, В. Герасімаў, В. Дайнекіна, Т. Кекелева, Ю. Лаўрык і іншыя). У зборніку прыведзена навуковае апісанне асабістых збораў вядомага дзяржаўнага дзеяча Панцеляймона Панамарэнкі (1902 — 1984), якія знаходзяцца ў розных сховішчах Мінска і Масквы. Як вядома, у 1938 — 1948 гадах П. Панамарэнка быў кіраўніком БССР.

У выданне ўключаны апісанне асабістага архіва Панцеляймона Кандратавіча ў расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі і Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, «панамарэнкаўскі» фонд у НАРБ налічвае 71 справу за 1930 — 1950, 1981 — 1982 гады. Сярод матэрыялаў — даклады, выступленні, рукапісы П. К. Панамарэнкі, сабраныя ім дакументы па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Заходняй Беларусі, фотаздымкі. Архіўная частка дапоўнена каталогам кніг з асабістай бібліятэкі П. Панамарэнкі, у які ўключаны бібліяграфічныя апісанні выданняў, асаблівасці экзэмпляра — уладальніцкія запісы. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца 447 кніг 1933 — 1983 гг. з асабістай бібліятэкі П. Панамарэнкі. З іх 426 — з дарчымі надпісамі. Кнігі былі атрыманы навуковай бібліятэкай у 1985 годзе.

Кнігі са збору П. Панамарэнкі захоўваюцца і ў Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы Расіі: 333 экзэмпляры, у тым ліку 226 кніг і 107 нумароў часопісаў… Вось што пішацца пра гэта ў прадмове «Ад укладальнікаў»: «…першым гэты збор пачаў даследаваць Аляксей Каўка, прысвяціўшы бібліятэцы П. Панамарэнкі ў «Историчке» шэраг публікацый. Ён вызначыў, што многія беларускія выданні патрапілі да першага сакратара з прыватнай бібліятэкі Кастуся Езавітава, вядомага палітычнага дзеяча Беларусі, калабаранта ў гады Вялікай Айчыннай вайны, арыштаванага ў красавіку 1945 г. контрразведкай 1-га Беларускага фронту ў Германіі, а затым этапіраванага ў Маскву і пазней у Мінск, дзе, па афіцыяльнай версіі, ён памёр у турэмнай бальніцы ў 1946 г.».

Асаблівую цікавасць выклікаюць аўтографы беларускіх пісьменнікаў, адрасаваныя першаму сакратару Максім Танк у 1943 — 1952 гг. падараваў Панцеляймону Кандратавічу шэсць сваіх кніг. Прачытаем аўтографы на некаторых з іх. На паэме «Янук Сяліба»: «Паважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку, імя чыё нераздзельна і назаўсёды звязана з гераічнай вызваленчай барацьбой беларускага народа, з яго перамогай, з росквітам яго культуры. Максім Танк. Масква. 21.XII.43 г.». На кнізе вершаў «Каб ведалі»: «Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку гэтыя вершы з Беларусі, з краіны, якую ён шчыра пакахаў, і з краіны, дзе шмат у яго сяброў, якія заўсёды яго ўспамінаюць. З пашанай Максім Танк. Масква. 8/VI.1949 г.». На кнізе «Выбраныя творы»: «Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку. Хай гэтыя песні, свабодай хвілінай, // Прыпомніць любімую Вамі краіну, // Ў якой Вы, калісьці, жылі, працавалі, // Расці і дужэць нам усім памагалі, // Дзе дружная наша сям'я баявая // Вас словам сардэчным заўжды ўспамінае. Максім Танк. Мінск. 4.VIII.1952 г.». І яшчэ хацелася б адзін аўтограф прывесці — на кнізе «Выбраныя вершы» (1947): «Паважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку, кіраўніку Рэйкавай вайны.




Тысячы дотаў нямецкіх, а ў іх не злічыць вартавых. // Чыгуначны шлях ляжыць, як струна. // Загад Панамарэнкі, загад партызанам, з Масквы, // Каб ранены звер нямецкі ад болі смяротнай узвыў: // Рэйкавая вайна! Рэйкавая вайна!.. Максім Танк. 17.11.1948 г.».

Не выклікаюць сумнення вартасці гэтага выдання як фундаментальнай работы на шляху да напісання грунтоўнай навуковай біяграфіі П. Панамарэнкі. Кніга яшчэ нагадала і пра тое, што асобнай тэмай павінна стаць даследаванне жыццядзейнасці гэтай асобы ў звязку з лёсавызначальнымі падзеямі і з'явамі ў гісторыі беларускай культуры, літаратуры.

# «ТЭАРТ» пачынаецца!

**Іна ЛАЗАРАВА**

Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ» пройдзе ў Мінску з 28 верасня па 21 кастрычніка. І хоць да афіцыйнага адкрыцця яшчэ далёка, днямі стартавалі «Тэатральныя сустрэчы з ТЭАРТАМ».

У дэбютным «круглым стале» ўзялі ўдзел дырэктар форуму Анжаліка Крашэўская, тэатральныя крытыкі Людміла Грамыка з Беларусі і Дзмітрый Рэнанскі з Расіі. Пачалі з самага інтрыгуючага — праграмы фэсту. Сёлета гледачы ўбачаць 16 спектакляў, якія прадставяць Беларусь, Расія, Францыя, Польшча, Ізраіль, Латвія, Германія і Венгрыя.

Цікавым павінен атрымацца беларускі блок, у межах якога мяркуецца прапанаваць 5 наватарскіх спектакляў. Гэта «PATRIS» С. Анцалевіча, Д. Багаслаўскага, В. Красоўскага, «Кароткачасовая» К. Сцешыка, «Сумны хакеіст» П. Пражко, «Ціхі шорах сыходзячых крокаў» Д. Багаслаўскага і «Рамонт» тэатра «ІнЖэст».

Застаецца дачакацца рэакцыі гледачоў і крытыкаў!

# Гаспадары літаратурнай гасцёўні

Некаторым здаецца, што жыццё бібліятэкі летам заміраe. На шчасце, жыццё кожнай дзіцячай бібліятэкі горада Мінска летам актывізуецца, становіцца яшчэ больш насычаным. Адны ідуць са спісамі літаратуры для пазакласнага чытання, другія наведваюць бібліятэку з настаўнікамі ў складзе прышкольнага лагера, трэція, не абцяжараныя школьнымі прадметамі, з асалодай і радасцю выбіраюць кнігі «для душы». Адным словам, тое, што дзеці не забываюць бібліятэку ў час канікул, радуе і настройвае бібліятэкараў на сур'ёзны лад.

Нядаўна ў дзіцячай бібліятэцы № 4 у межах літаратурнай гасцёўні адбылася сустрэча з Міхасём Пазняковым, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Міхась Паўлавіч прадставіў дзецям свае новыя кнігі для малодшага школьнага ўзросту, якія выйшлі ў выдавецтве «Народная асвета» ў серыі «Свет вакол нас»: «Радзіма», «Роднае слова», «У бары і на двары», «Песня прыроды», «Свята ўраджаю», «У заапарку», «Птушыныя свята». Дзеці чыталі ўголас вершы, адгадвалі загадкі, паўтаралі за пісьменнікам скорагаворкі, «засыпалі» пісьменніка пытаннямі — ім было цікава ўсё. Да гэтай сустрэчы была падрыхтавана кніжная выстаўка «Дарыце радасць людзям».

Наступным гаспадаром літаратурнай гасцёўні стаў дзіцячы пісьменнік Мікола Чарняўскі.

**Людміла БУСЕЛ,**
**загадчык дзіцячай бібліятэкі № 4**

# Пад небам Вязынкі



На Радзіме Янкі Купалы, у Вязынцы, 7 ліпеня сабраліся шматлікія аматары паэзіі, каб аддаць даніну памяці яго творчасці, найкаштоўнейшай спадчыне, якую ён пакінуў свайму народу. Свята было арганізавана Дзяржаўным літаратурным музеем імя Янкі Купалы пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі, Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, Маладзечанскага райвыканкама.

Да ўвагі гасцей супрацоўнікамі музея была прапанавана цікавая фотавыстаўка — рэтраспектыва ў часе. Па экспазіцыі можна было прасачыць аднаўленне сядзібы і гэтых мясцін. Са святочнай сцэны гучалі вершы Міхася Башлакова, Віктара Шніпа, Міколы Шабовіча, Анатоля Зэкава, Таісіі Трафімавай, Іны Фраловай. Слова бралі Уладзімір Скарынкін, Анатоль Бутэвіч і інш.

Сама Вязынка сустракала гасцей чыстым бясхмарным небам, у якім падчас выступлення паэтаў сімвалічна лунаў бусел. Хацелася верыць, што гэта і ёсць бласлаўленне вялікага паэта нам — нашчадкам.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Пазакласнае чытанне

**Марына РЭХВА**

У чытальнай зале Івацэвіцкай Цэнтральнай бібліятэкі імя П. Пестрака адбылася творчая сустрэча з пісьменнікам-земляком, сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў Валерыем Гапеевым. У імпрэзе ўзялі ўдзел прыхільнікі прыгожага пісьменства, сябры і літаратурныя паплечнікі аўтара.

Валерый Мікалаевіч — адзін з нешматлікіх пісьменнікаў, якія закранаюць у сваіх творах праблемы падлеткаў. Яго кнігі — «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання», «Ведзьміна тоня» — выклікалі шмат палемічных водгукаў, сталі прадметам абмеркавання ў падлеткавай аўдыторыі.

Падчас сустрэчы калегі-літаратары Алесь Зайка і Віктар Рэчыц адзначылі асноўныя рысы творчай манеры В. Гапеева, пажадалі далейшага творчага плёну.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Лапцёнку Ігару Мікалаевічу ў сувязі са смерцю МАЦІ — Ларысы Васільеўны.

## Абрысы

Выратаваныя мастацкія каштоўнасці дэманструюцца з 5 ліпеня па 4 жніўня ў музеі-запаведніку «Нясвіж». Экспазіцыя размяшчаецца ў малых выставачных залах Палацавага ансамбля. Праект рэалізаваны сумесна з Брэсцкім абласным краязнаўчым музеем. Калекцыя складаецца з твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, канфіскаваных Брэсцкай мытняй і мытняй «Заходні Буг» пры спробе незаконнага вывазу іх за мяжу. Найбольш каштоўная частка музейнага фонду з'яўляецца калекцыя абразоў. На выстаўцы ў Нясвіжы прадстаўлены вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, элементы побыту XIX — XX стст.

Становячыся ўжо традыцыйнай, у Мінскім Палацы мастацтва 16 ліпеня адкрыецца выстаўка «Залатая калекцыя з фондаў Беларускага саюза мастакоў». Фонды БСМ з'яўляюцца фундаментальным зборам жывапісу і графікі другой паловы XX стагоддзя. Гэта калекцыя здольная прадставіць усю шырыню і разнастайнасць мастацтва Беларусі, дапамагчы асэнсаваць працэс фарміравання і развіцця нацыянальнай мастацкай школы. Унікальнасць выстаўкі ў тым, што ў экспазіцыю ўвайшлі творы, якія выстаўляліся даволі рэдка альбо не выстаўляліся наогул. Прадстаўлены работы Л. Шчамялёва, Г. Вашчанкі, М. Залознага, Б. Аракчэева, В. Жоўтак, В. Цвіркі, М. Данцыга, Г. Скрыпнічэнкі, І. Басава, А. Бархаткова, І. Рэя ды іншых аўтараў.

Нацыянальны мастацкі музей 24 ліпеня аб'яднае гісторыі чатырох краін: Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы. У Мінску адбудзецца вялікі канцэрт «Дзень культуры народаў Вялікага Княства Літоўскага». Праграма разлічана на пяць гадзін і пройдзе ва ўнутраным двары музея. У гэты вечар выступіць папулярны беларускі гурт «Палац», украінскі «ГІЧ Аркестр», польскі струнны квінтэт *VoLosi*, а таксама група *Aiste Smilgeviciutes&SKYLE*, адзначаная за ўнёсак у культуру прэміяй Прэзідэнта Літвы. Наведвальнікаў чакаюць і традыцыйныя рамесныя майстэрні, выстаўка касцюма, даспехаў і зброі, танцы, віктарыны, прызы і спецыяльнае меню ад Арт-кафэ. Вечар прымеркаваны да экспазіцыі «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага», з якой можна азнаёміцца да 26 жніўня.

Аўтарскі канцэрт таленавітага кампазітара, выканаўцы складаных музычных твораў кампазітараў мінулага, лаўрэата шматлікіх фестываляў і конкурсаў у Беларусі, Расіі, Германіі Віктара Фяцісава «Белыя ночы Брэста» адбыўся ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. На імправізаванай кніжнай выстаўцы можна было ўбачыць новыя песенныя зборнікі, у тым ліку «Скажы, гармонік» (выдавецтва «Альтэрнатыва») з лірычнымі песнямі на вершы паэта з Новасібірска, ураджэнца вёскі Падбалотаў Брэсцкага раёна Пятра Панасюка. Дзякуючы творчаму супрацоўніцтву П. Панасюка і В. Фяцісава створана каля 70 песень.

# Вандроўка па шчасце

**Ганна ЛЯХ**

Зусім нядаўна пабачыла свет новая казачная аповесць вядомай дзіцячай пісьменніцы Алены Масла «Пацучок Фэлік падарожнічае». Фэлік — галоўны герой кнігі — персанаж неспакойны, няўрымслівы. Сказаў сваім бацькам, што выпраўляецца ў дарогу, і пайшоў з дому.

Падарожжа яго стала незвычайным і поўным прыгод. Так, ён паспеў пазнаёміцца з пацукамі Анфіскай і Ларыскай, а таксама пакаштаваць сапраўднага жыцця: у рэстаран схадзіў, на моднай вечарынцы пабываў, на джыпе пакатаўся і іншых ласункаў жыцця паспытаў. Нават у шопінгу паўдзельнічаў. Паводзіў сябе, да яго гонару, выключна прыстойна і прыгожа. І ўрэшце дадому вярнуўся. Праўда, ужо з нявестай Ларыскай. А Анфіска пазнаёмілася з яго суседам Фердынандам.



Аповесць складаецца з невялікіх раздзелаў. Вельмі інфарматыўныя і захапляльныя іх назвы: «Фэлік страхуе сваё жыццё», «Для падарожжа Фэлік абірае аўтамабіль», «Першыя паездкі», «Фэлік смялее і робіць вылазкі», «Фэлік знаёміцца з дзяўчаткамі», «Фэлік катае дзяўчатак на джыпе», «Дзяўчаткі вядуць Фэліка ў кавярню пад зямлёй», «Падарожнікі балююць у кавярні», «Карысць ад пробак у горадзе» і г. д.

Алена Масла ў казачнай форме расказвае юнаму чытачу пра тое, якое яно ёсць, жыццё пацучка Фэліка і яго сяброў. Пры гэтым пісьменніца паказвае сваіх персанажаў у дзеянні, у развіцці.

Уявіць галоўных герояў дапамагаюць ілюстрацыі, зробленыя Марыяй Каратаевай. Яны настолькі яркія і цікавыя, што хочацца зноў і зноў разглядаць кнігу.

Для маленькага чытача важна тое, што гісторыя пра пацючка скончылася добра — усе героі знайшлі сваё шчасце. Вельмі хацелася б даведацца, што ж будзе з персанажамі казкі далей. З нецярпеннем чакаем працягу.

# Сучаснае і вечнае слова

**Віктар ІВАНОЎ**

Аляксей Пысін — прызнаны майстар нашага прыгожага пісьменства. Вядомыя крытыкі адзначаюць, што яго паэзія — унікальная і фундаментальная з'ява ў беларускай літаратуры. Ён заняў месца побач з Аркадзем Куляшовым, Піменам Панчанкам, а ў сваёй ваеннай прозе ўзняўся да ўзроўню Васіля Быкава, Канстанціна Сіманава, Аляксандра Твардоўскага.

Сябар і біёграф паэта Віктар Арцем'еў уклаў зборнік «Вянок Аляксею Пысіну», выдаў кнігу ўспамінаў «Паэт вузел завязаў», радаводны альбом «Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў», нарыс «Бібліятэка паэта Аляксея Пысіна». І вось у маі бягучага года пры фінансавай падтрымцы аблвыканкама ў Магілёўскай абласной аб'яднанай друкарні імя Спірыдона Собаля ўбачыў свет яшчэ адзін яго зборнік — «Урокі Аляксея Пысіна» (наклад — 300 асобнікаў).

Яшчэ Гётэ казаў, што, каб лепш спасцігнуць сэнс твора, трэба ведаць не толькі яго змест, але і гісторыю. Віктар Арцем'еў сцвярджае, што творы Пысіна аўтабіяграфічныя, і спасылаецца на ўласны досвед: «За чвэрць веку нашага добрага сяброўства былі моманты, калі паэт шчыра раскрываў сакрэты свайго майстэрства, а часам і наглядна дэманстраваў, як нараджаецца новы верш. Гэта былі своеасаблівыя ўрокі паэта, заняткі ў Пысінскім універсітэце, якія ўспрымаў я з усёй шчырасцю сэрца. Яны надзвычай цікавыя і змястоўныя».

На старонках зборніка чытач знойдзе нататкі пра тое, як ствараліся многія вершы Аляксея Пысіна, у тым ліку і апошні твор для дзяцей — вершказка «Незвычайнае падарожжа».

У нарысах «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае», «Залатая нітка гісторыі», «Пра майстэрства перакладчыка» згадваецца, як паэт рэдагаваў свае занатоўкі, як ставіўся да перакладу твораў на іншыя мовы. Багата цікавага і карыснага пра жыццё і творчасць Пысіна знойдзецца ў нарысах «Што Богам наканавана», «Міні-урокі, міні-ўспаміны», «Аляксей Пысін і Васіль Быкаў».

Кніга будзе цікавай шырокаму колу чытачоў, якія любяць родную паэзію.

# «Мне Патапаўка сніцца...»

Гісторыю кожнай вёскі пішуць яе жыхары. Асабліва пашанцавала тым паселішчам, у якіх нарадзіліся журналісты ці пісьменнікі, бо іх друкаванае слова пра дарагія сэрцу мясціны застаецца зафіксаваным на паперы, і напісанае могуць прачытаць нашчадкі не ў адным пакаленні.

**Наталля СІДАРЭНКА**

Вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна ў гэтым сэнсе пашанцавала ўтрая: адсюль у беларускую літаратуру прыйшлі аж тры пісьменнікі — Уладзімір Дзюба, Таццяна Гарэлікава і Анатоль Зэкаў. І кожны з іх у той ці іншай ступені ўславіў сваю малую радзіму: хто — у вершах, хто — у прозе. Але, пэўна, з асаблівай сілай гэта любоў праявілася ў творчасці Анатоля Зэкава. Бадай, рэдкая яго паэтычная падборка ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя» і «Маладосць» ды іншых перыядычных выданнях (а друкуецца ён даволі часта) абыходзіцца без вершаў з канкрэтнай прывязкай да родных мясцін: то згадваюцца назвы вясковых вуліц, балот і лясных урочышчаў, то імёны, прозвішчы і нават мянушкі землякоў-аднавяскоўцаў.

Яскравым пацвярджэннем таму стала і апошняя па часе кніга вершаў паэта «Пад кронай белых аблачын», якая зусім нядаўна пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Ковчег». Гэта і насамрэч, як адзначаецца ў анатацыі, «своеасаблівы паэтычны летапіс яго роднай Патапаўкі і будакашалёўскага краю», пра што сведчаць і самі назвы вершаў: «Мая Патапаўка», «Патапаўскія вуліцы», «Патапаўскія настаўнікі», «Патапаўскія могілкі», «Будакашалёўскі базар», «Дзяўчына з Буда-Кашалёва»; сюды ж можна дадаць і згадкі пра іншыя мясцовыя тапонімы: «Мядзведзева», «У Іванаўцы», «Рэчка Ліпа», «Плач па Журавінным балоце»...

З замілаваннем і сыноўняй любоўю Анатоль Зэкаў згадвае сваю родную Патапаўку, дзе нарадзіўся і жыў да паступлення ў Гомельскі дзяржаўны універсітэт, куды потым — з Гомеля, Масквы і Мінска, дзе па волі лёсу выпала вучыцца ці працаваць, — прыязджаў адведаць бацькоў, куды пры кожнай зручнай нагодзе заўсёды спяшаецца і сёння. І ў сталіцы Беларусі, дзе ўжо больш як трыццаць гадоў жыве пісьменнік, ён па-ранейшаму думкамі там, на радзіме, бо, як сам прызнаецца:

*І па сёння ў сталіцы,*
*з якой звязаны лёсам,*
*мне Патапаўка сніцца,*
*мая родная вёска.*

Вясковыя ўспаміны крынічна жывяць творчасць паэта, з іх ён чэрпае натхненне, там, у вёсцы, нараджаюцца яго паэтычныя (ды і празаічныя, як мы ведаем па кнізе «Генеральскі нумар») радкі. Калі спаслацца толькі на назвы некаторых вершаў, змешчаных у зборніку «Пад кронай белых аблачын», то «Згадваючы родную вёску», Анатоль Зэкаў успамінае «Вясковыя вяселлі», «Бацькаў сад» і «Купальскія агні», робіць «Экскурс у маленства», куды так вабяць «Лясная дарога» і «Грыбныя сцежкі», дзе шапоча «Бярозка над хатай», журчыць каля Сяльца «Крынічка» і змагаецца за сваё існаванне «Рэчка Ліпа». Ён слухае «Песні продкаў» і песні, якія натхнёна выводзіць «Птах». Яго чаруюць «Ідылія вясковага двара» і «Буслы над хатаю», кранае і ўзрушвае «Смерць земляроба». Тут жывуць яго «Русалка» і ўся «Радня», земляк-аднавяскоўцы «Нікан», «Цімох», «Антон», «Захарка», «Равеснікі», «Жанчыны з вайны», «Кукурузная вартаўніца», «Грыбнік», «Валодзя Буслік», іншыя «Суседзі» і нават пасецца «Барабанаў конь».

Здавалася б, многае з убачанага, пачутага, перажытага, прапушчанага праз сэрца і асэнсаванага паэтам знайшло адлюстраванне ў вершах. І ўсё ж ён жыве як бы з адчуваннем віны, што гэта яшчэ далёка не ўсё, пра што хацелася распавесці сваім чытачам, і таму, не ўтойваючы, прызнаецца:




*Шкадую,*
*што наўрад ці ўслаўлю*
*з-за недахопу часу ў вершах*
*і вас я, Муравей і Гаўлі,*
*і вас, Галы і Жытанежа.*

Гэтак жа вінаваціцца Анатоль Зэкаў і перад роднай патапаўскай вуліцай, «што Пралетарскай наракла»:

*Я вінаваты перад ёй,*
*хоць і не ведаю, у чым.*
*Вярніце вуліцы маёй*
*былую назву — Крывічы.*

І тым часам, як бы азіраючыся на свой жыццёвы шлях і ўзіраючыся ў дзень сённяшні, радуецца:

*Дзякуй Богу,*
*што ёсць хата,*
*дзе маленства гойсала маё...*

У творах паэта, нібы на далоні, яго біяграфія, якая яскрава паўстае з вершаў «Да дня нараджэння», «1955 год», «Легенда прозвішча», «Дзяды», «Мая песня», «Я еду дахаты», «Мае бусліныя ўспаміны...», «Дарога на радзіму», «Служыў мой бацька на Чукотцы...», «Як бы хацеў узяць я многа...», «Мае аднавяскоўцы», «Памяці першага кахання» і многія іншыя.

Самыя прачулыя радкі паэт адрасуе маці, якая два гады таму пакінула гэты свет, і бацьку, які сёлетнім кастрычнікам адзначыць свой 85-ы дзень нараджэння, аднак па-ранейшаму — «не можа склаўшы рукі // нат пасядзець адной хвіліны». У вершах, прысвечаных самым родным людзям, навідавоку вялікая ўдзячнасць за падараванае жыццё і жыццёвыя ўрокі дабрыні, павагі, шчырасці, чалавечай спагады, якія штодня выкладалі сыну бацькі сваімі адносінамі да людзей. Гэта і гімн звычайным вяскоўцам, якія «з ранішняй расою // звыклі шчыраваці», і «таму, за ўсё жыццё, відаць, // займелі прыгаршчы мазоляў, // што і цяпер яшчэ смыляць». У гэтых радках і гонар за бацькоў, і балючая крыўда на тое, што «бацькі не мелі волі». Пэўна, таму ён заяўляе:

*Вярні, жыццё, мяне ў пачатак,*
*дзе крок зрабіў свой першы самы,*
*дзе шчэ зусім не лысы тата*
*і без маршчынак твар у мамы...*

Вершы Анатоля Зэкава густа населены вобразамі і іншых блізкіх яму людзей: тут і родзічы, і незабыўныя настаўнікі, і аднакласніцы Валя Самуйленка і Галя Зэкава, якія занадта рана сышлі на клады, і зусім юная суседка Светачка Кірыленка, якую забраў Чарнобыль. Паэт таксама не забывае землякоў, якія і сёння жывуць «заўжды бяжком, заўсёды ўпохап — // зрабіць бы толькі справы ў час».

«З увагай да лёсаў людскіх» — так называўся артыкул Анатоля Зэкава, змешчаны ў будакашалёўскай раённай газеце «Авангард» да 65-годдзя земляка Уладзіміра Дзюбы. Гэткім чынам ахарактарызаваў ён паэзію свайго старэйшага калегі. Тое ж самае можна з поўным правам сказаць і пра самога аўтара кнігі «Пад кронай белых аблачын». Чалавек і яго лёс, як мы пераконваемся ледзьве не на кожнай старонцы, у цэнтры ўсёй творчасці паэта.

Не застаецца па-за ўвагай і родная прырода, бо творца вырас менавіта там, дзе «абапал вёскі кругам лес».

Успамінамі з яснога маленства прасякнуты вершы «А мы адтуль...», «Край маленства», «Зімовы эцюд», «Вятрамі лес прадзьмуты...», «Грыбнік», «Пошапт смагі» і шэраг іншых. У некаторых з іх лес нібыта з'яўляецца пейзажным палатном, на фоне якога разгортваюцца асноўныя падзеі:

*Дзе лес шуміць, там нашы хаты*
*стаяць пад крыламі аблок —*
*жыцця і вечнасці выток,*
*турбот і радасцей пачатак.*

Анатоль Зэкаў так ацэньвае сваё жыццё: «калі што ў ім і маючы, // то кут сярод бяроз». І пры гэтым радасна ўсклікае: «Эх бы зноўку ў лес той трапіць, // дзе душою раскашую!» І нават называе канкрэтны яго адрас:

*...у лес за Несцеравай Ганнай*
*і потым — на Мядзведзеўскі бальшак*
*праз Маліноўскую паляну*
*мы шыбавалі ў малады дубняк.*
*А там грыбоў —*
*не менш, чым мошак,*
*згінацца толькі не лянуйся, рэж,*
*аж самі прасіліца у кошык —*
*здавалася, што ўсе не забярэш.*

Заўважым, што лес у паэта — не безаблічны, а канкрэтна-пазнавальны, дэталізаваны. І гэтая акалічнасць робіць яго сваім і для нас, чытачоў.

Праўда, паэтавы лясныя згадкі не заўсёды радасна-ўзнёслыя, сям-там ёсць і балючыя ноткі, калі гэты лес «перакопаны акопамі, // якія // для многіх невядомых салдат // Вялікай Айчыннай // сталі магіламі», і гэтае відовішча як бы з глыбінь душы нараджае пытанне: «Колькі ж крыві // пралілося тут, // калі і сёння // зямля // чырванее // ад падасінавікаў?»

Водгулле вайны — і ў вершы «Пасляваеннае», героі якога, хлапчукі-падшываны, «гулялі ў партызаны // ў акопах, цёплых ад вайны», калі «знянацку // спалохаў цішыню снарад...»

А вось і трывога за сучаснасць. «Мой лес вымірае — // у вечнасць сыходзіць» — з непрыхаваным жалем бядуе паэт у адным вершы, «як пад лінейку, нашы рэкі // павыпрамлялі» — абураецца ў другім, «з балот ваду пазводзілі — // вада сышла з калодзежаў» — канстатуе ў трэцім, «плачуць сосны векавыя» — апавядае ў чацвёртым. Аўтар разумее, што прагрэс накладвае свой адбітак на акаляючае асяроддзе, і працэс гэты ўжо не спыніш:

*...Як шмат зынічалася ў лёсе:*
*вунь пад акном, як шкло, шаша.*
*І ўсё ж па той лясной дарозе*
*шчыміць у горадзе душа.*

І гэткай пранізлівай шчымлівасцю, дзе — балючай, дзе — светлай, прасякнута ўся кніга вершаў Анатоля Зэкава «Пад кронай белых аблачын». Як, прынамсі, і вынесенае на чацвёртую старонку вокладкі пад партрэт аўтара — замест традыцыйнай біяграфіі — чатырохрадкоўе:

*Сыходзячы апошнім словам,*
*ў апошні міг згадаю я,*
*што ёсць дзесь Буда-Кашалёва*
*і ёсць Патапаўка мая.*

Так сапраўды мог сказаць толькі той чалавек, які шчыра і аддана любіць сваю малую радзіму. Хаця, калі папраўдзе, ці бывае радзіма малой?

*Друкуецца ў «Маладосці»*

# Васіль Быкаў. Адзінота і свабода

## *Нататкі крытыка*

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

Калі б на чыюсьці прыхамаць трэба было сканцэнтраваць усю творчасць і асобу Васіля Быкава ў адным слове, то я, напэўна, вымавіў бы слова «адзінота».

Яно не зусім звычнае: Быкаў вядомы і сваёй актыўнай грамадскай дзейнасцю, шмат хто называе сёння яго сваім сябрам, да яго, бясспрэчна, заўжды хінуліся — гэта лёс усяго сапраўднага.

Аднак я пішу эсэ, і мне дазволена рабіць гіпотэзы.

...Гісторыя паводле Быкава — няспынная хада ў невядомае мірыяд самотных душ, і ў кожнага — свая зямля і свая вайна: дэталі, вылазкі, крушэнні. Тое, што ўсё гэта пасля абрынаецца ў небыццё, для агностыка-Быкава і ёсць асноўным «парадоксам жыцця», збоем у светапарадку.

Народ у гэтым выпадку таксама бачыцца хаатычным суплётам індывідуальнасцей, аб'яднаных, аднак, спрадвечным законам *людскасці*. Гэтая рыса і зводзіць у адно падобнае, і расштурхоўвае несумяшчальнае. Народ мае меру ўсіх рэчаў, і калі яго пазбаўляюць той меры, пачынаецца трагедыя, за якой неадступна ідуць боль, несправядлівасць, нішчымніца, смерць.

...Каб пазбегнуць чыстай сюжэтнасці, ён уражвае — паказвае малапрывабныя бакі рэчаіснасці, выгляд якое не мог не бянтэжыць савецкага пурытанскага чытача і крытыка. Што дазволена было ў перакладных кнігах, тое жорстка выкаранялася са сталінскім імпэтам галоўлітаўскімі цэнзарамі. Дзяржава, якая закатавала сотні тысяч ні за што, пыжылася, каб ніводзін сумнеўны радок, вобраз ці нават эпітэт не праскочыў у друк. Усё гэта, канечне, скончылася — пасля 1991 года, калі ўсе кінуліся «закрываць гештальт».

Паглыблення ў «вельмі-рэалізм» у Быкава не адбылося — занадта цнатлівы ў гэтым сэнсе быў аўтар. Быкаў не пачаў атрымліваць злосную асалоду ад сузірання распаду. Наадварот. Калі прыгадваць нават і такі жорсткі твор, як «Ваўчыная яма», то і там не адшукаеш гэтага цынічнага «скрозь зубы» стаўлення да чалавечага становішча, лёсу. Хутчэй — шкадобу, а сям-там і павагу да новых рабінзонаў ці — партызанаў, якіх лёс выкінуў на ўзбочыну жыцця: туды, дзе апынуўся, па вялікім рахунку, і сам Быкаў.

...Ён — пісьменнік трагічнага, эсхаталагічнага светаадчування. Гэта бясспрэчна. Але бясспрэчна і ягоная настойлівая прага змен, надзея на тое, што цемра не можа агарнуць святло. Дастаеўскі ў ім заўсёды прагнуў стаць Талстым. І спыняўся недзе на паўдарозе.

Для беларускай ваеннай прозы 1950-х характэрнай была гераічная каша — «абавязкова давесці героя да Берліна». Быкаў жа абмяжоўваўся адным-двума днямі, адной пройдзенай вёскай, вышынёй, і чытачу пачынала здавацца, што час у аповесці цячэ прыкладна аднолькава з яго ўласным, жыццёвым часам, які ён аддае на чытанне.

...Ён наогул, бадай, з'яўляецца несвядомым дэміургам сацыяльна завостранай прозы апошніх гадоў. Калі пачаліся мастацкія імправізацыі і разбэрсанасць, Быкаў застаўся верным сваёй праблематыцы і ўказаў шлях, па якім сёння ідзе амаль уся наша лепшая проза — асэнсаванне лёсу краіны, пошукі выйсця з крызісу, пошукі выйсця да сапраўднай Беларусі. Тое, што ў гэтай галіне ствараюцца дасканалыя творы нават у наш, далёкі ад захаплення грамадзянскім пафасам, час, — сведчыць пра пастаянны ўплыў Быкава. Так, заўсёды хочацца жыць у Беларусі Караткевіча і Сыса, Коласа і Багдановіча. Але ці была і ці будзе калі-небудзь такая Беларусь?

З быкаўскай Беларусі хочацца сысці і зрабіць іншую краіну, перайначыць ці хаця б прамымі зрабіць шляхі да яе.

...З асабістага. У школе беларуская літаратура не выклікала ў мяне якой-кольвек цікавасці. Але аднойчы (здаецца, у сёмым класе) я прачытаў у падручніку адзін твор, прызначаны для пазакласнага чытання, — «На чорных лядах». Адэкватна перадаць уражанні не магу: апавяданне проста расціснула мяне ў блін, і яшчэ тыдзень я хадзіў і паўтараў: «Вось жа, можна і *так* пісаць?! І пра гэта?!» Апавяданне адкрыла мне магчымасці літаратуры — не слінявай і ружовашчокай, а нейкай іншай. Зямля зазыбалася пад нагамі, прайшло шмат часу, пакуль я змірыўся з гэтым творам, абдумаў яго...

У верасні 2003 года брат прывёў мяне, першакурсніка, на Маскоўскія могілкі. Ужо сутонела, крапаў невялікі дождж. З-за дзясяткаў вянкоў магіла Быкава здалася неверагодна вялікай. Я стаяў перад ёй і чамусьці адчуваў, што і сам Быкаў вельмі вялікі. Нібы казачны волат у кургане, ён ляжыць, спіць — і пад маімі нагамі, і пад усімі магілкамі, і нават машыны на шашы, якія праносяцца праз імжу, таксама адчуваюць прысутнасць Васіля Быкава. Гэтае адчуванне яшчэ доўга не праходзіла.

...Кожны твор — спроба выбрацца з адчужэння, але марная спроба.

Нарастае і нарастае тая адасобленасць. Але чым ёсць любоў? Хіба можа пісьменнік ствараць — без любові?

Нібыта паўсюль адны пакуты, боль, несправядлівасць, абсурд сусветнага беспарадку.

Як быццам губляецца тая надзея. Але адкуль яна ўвогуле бярэцца?

*Поўную версію чытайце ў № 6 часопіса «Маладосць».*




# «Хрыстос прызямліўся...» у Варшаве




*Karatkiewicz Uładzimir. Chrystus wylądował w Grodnie (Ewangelia Judasza) / Przełożyła Małgorzata Buchalik. — Warszawa : Oficina 21, 2012. — 464 s.*

**Нядаўна ў Варшаве выдавецтвам *Oficina 21* пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і нацыянальна-культурнай спадчыны Польшчы выдадзены пераклад рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Польская мова сталася чацвёртай, на якой «загаварыў» пра падзеі XVI ст. знакаміты беларускі пісьменнік (раней былі чэшская, украінская і руская). Паступова гэты раман набывае папулярнасць у замежжы і па колькасці перакладаў, мяркуем, будзе «даганяць» самы перакладаны твор У. Караткевіча — аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха».**

Знаёмства з польскамоўным перастварэннем пакідае дваістае ўражанне. Сапраўды, была патрэба ў далучэнні польскамоўнага чытача да падзей таго часу, калі нашы народы жылі ў супольнай дзяржаве — Рэчы Паспалітай. Ужо тое, што штуршком да напісання рамана стаў фрагмент з «Кронікі...» Мацея Стрыйкоўскага, лучыць гэты раман з Польшчай, ды і Гародня, Вільня шмат што значаць для палякаў.

Да ліку фактараў, якія непасрэдна вызначаюць рэакцыю на тэкст, адносяцца каштоўнасныя арыентацыі ўспрымальніка, і польскамоўны чытач убачыць менавіта беларускае асвятленне супярэчлівых працэсаў, якія адбываліся на нашай зямлі ў той складаны час. Магчыма, адрознае ад тлумачэння польскай гістарыяграфіяй. Гэта дае падставы меркаваць, што чытач пашырыць межы сваёй дасведчанасці, больш дасканала ўсвядоміць панцце гістарычнага мыслення, да чаго так імкнуўся У. Караткевіч. Акрамя таго, з улікам даволі магутнай каталіцкай плыні ў польскім грамадстве, не кожны вернік можа прыняць гратэскава намаляваных у рамане вобразы як каталікоў, так і праваслаўных святароў.

Усё ж найперш важна падкрэсліць, што перакладчыца Малгажата Бухалік здолела захаваць нацыянальны каларыт рамана, той этнічны складнік, тую «беларускасць», якая цяжэй за ўсё перакладаецца. Натуральна ўспрымаюцца многія сцэны народнага жыцця і дыялогі герояў, маўленне кожнага «апостала» індывідуалізавана. Аднак пры складаным перакладчыцкім выбары заўсёды на першае месца выходзіць польская мова, яе магчымасці і традыцыі, а таксама маўленчая кампетэнцыя чытача. З гэтай прычыны крыху незвыкла для нас чытаюцца імёны і прозвішчы некаторых персанажаў: Юрась Братчык — Juraś Braciszek, Іосія бен Раввуні — Jozjasz ben Rawwuni, Ян Каток — Jan Kotek, назвы асобных раздзелаў: «Уздых Іосіфа Арымафейскага — «Westchnienie Józefa z Arymatei» (с. 211), «Нагорная казань» — «Kazanie na górze» (с. 350). Якраз у гэтым і выявілася сапраўдная «польскасць» перакладу.

Большасць вершаваных урыўкаў (у асноўным песняў), якія сустракаюцца ў тэксце рамана, успрымаюцца натуральна, як кажуць, гучаць: «Przeciw włóczniom chamskie kosy, / Wąską bramą szubienicy, / Cham do raju pójdzie bosy, / O to bił się po próżnicy» (с. 410).

Нельга не заўважыць і некаторых спрэчных перакладчыцкіх трансфармацый. У перакладазнаўстве дапускаецца пераклад, а не транслітарацыя матывавана ных прозвішчаў, аднак да гэтага трэба падыходзіць асцярожна, асабліва калі агульны назоўнік змяняе род. Гэта датычыць найперш Лявона Конаўкі і яго брата Аўтуха — яны атрымалі прозвішча Kubek. Калі «конаўка» адносіцца да беларускай безэквівалентнай лексікі, то, відаць, лепш было б пакінуць яе нязменна, даўшы зноску. Але гэта той выпадак, калі перакладчыку трэба рабіць уласны выбар, а іншыя меркаванні могуць прымацца як дапушчальныя.

Інтэртэкстуальнасць рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», яго постмадэрнісцкі характар таксама пакалі адбітак на пераклад. Гэта перадусім адносіцца да эпіграфаў, якія суправаджаюць усе раздзелы твора. Біблейскія цытацыі выкарыстаны ў адпаведнасці з польскімі перакладамі Святога Пісання. А вось для разнастайных сярэднявечных лацінскіх эпіграм, фрагментаў з некаторых балад не зроблены вершаваныя пераклады (с. 74 — эпіграма пра ка́та, с. 111 — балада пра сэра Хуга, с. 157 — балада пра Ліладфею), і яны выглядаюць штучнымі, бо не могуць паводле азначэння быць невершаванымі.

Гэтыя прыватныя заўвагі не перакрэсліваюць велізарнай працы, зробленай М. Бухалік падчас перакладу. Увайсці ў мастацкі свет У. Караткевіча, заглыбіцца ў прастору яго мыслення няпроста. Складанасці падсцерагаюць перакладчыка што ні крок. І ў многіх выпадках, як адзначаецца ў кнізе, дапамогу аказвалі «нашы» людзі (Алена Сінькевіч, Святлана Курс, Вольга Гардзейчык, Міхась Тычына, Тадэвуш Канвіцкі ды інш.), якім выдавецтва персанальна падзякавала. Будзем спадзявацца, што зацікаўленасць беларускай літаратурай у Малгажаты Бухалік не перапыніцца і ў хуткім часе польскі чытач сустрэнецца з перакладзенымі ёй новымі творамі нашага прыгожага пісьменства.

**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ**

## Змітрок МАРОЗАЎ



### Ліпеньская калыханка

*Выплыў месячык бялёсы.*
*Пыл не ўецца ўсцяж дарог.*
*На хвалістыя пракосы*
*Будзень стомлена прылёг.*

*Пахне мятаю і мёдам*
*Ля вішнёвага садка...*
*Ціха-ціха. Спіць прырода.*
*Засынай і ты, дачка.*

### Паланея

*Цётка Паланея*
*Гаварыла мне:*
*«Што вясна пасее,*
*Верасень дажне».*

*Жыта да сцяблінкі*
*Я сваё дажаў,*
*На жыцця дажынкі*
*Шмат каго сабраў.*

*Зычныя прамовы,*
*Тосты пахвальбы...*
*Паланеі словы —*
*Мудрае журбы.*

### ***

*Буяе пырнік у палях.*
*Касцы сышлі, забыты жнеі...*
*Калі нішчымнее зямля,*
*Палын на могілках квітнее.*

### Я

*Хто я?..*
*Праменьчык чалавечнасці,*
*Што згасне ў тлумнай мітусні.*
*І адляціць пылінкай вечнасці*
*Да неспазнанай цішыні.*

### Дарога ў пакінутай вёсцы

*Зарастае дарога травой,*
*Што ёй сніцца часінай начной?*
*Грай вясельны. У шлюбным сады...*
*Босых ног маладыя сляды.*

### Вячэра на Дзяды

*«Сядайце, госцейкі, за стол,*
*Частуйцеся ў радзіннай хаце...»*
*Памерлых постаці наўкол,*
*Жывыя толькі я ды маці.*

### ***

*Што са мною адбылося?*
*Слёзы, морак, тло...*
*Толькі ў сэрцы засталося*
*Матчына святло.*
*Над пагостам купал неба*
*Спелы, быццам Спас...*
*«Неяк жыць, сынок, а трэба!..» —*
*Запавет-наказ.*

### Мы

*Як рэдка знаёмыя цені*
*Наведваюць нас з небыцця!..*
*А ўсё, што мы бачым, — адценні*
*Зямных святлаценяў жыцця.*

*Шукаем сябе — не знаходзім,*
*Нясем друз грахоў на плячах.*
*І ціха да продкаў сыходзім*
*Без слёз пакаяння ў вачах.*

### У старым садзе

*Світальны сад. Густая квецень*
*У срэбры ядранай расы...*
*Такая ціша ў белым свеце,*
*Якой не чулі ўсе часы.*
*Бы гэты сад не бачыў ліха,*
*Слёз і пякельнага агню...*
*Якое шчасце — вольна дыхаць*
*І слухаць, слухаць цішыню!*

### Адзінота

*Няма перад кім павініцца.*
*Няма перад кім слёзы ліць.*
*Няма каму памаліцца...*
*Адно засталося...*
*Жыць!*

### ***

*Летні вечар. Бярозы*
*Ў салаўінай расе,*
*Сее зорнае проса*
*Маладзік пакрысе.*
*Тумановая млечнасць*
*Спавівае дубы...*
*Дзе імгненне?*
*Дзе вечнасць?*
*Дзе жыццё?*
*Дзе нябыт?*

## Надзея ПАРЧУК



### * * *

*Абуджаецца сонцам зямля —*
*І святлее наўсцяж небакрай...*
*Прывітанне, Радзіма мая!*
*І паклон табе, родны мой край!*

*Покуль вы ў мяне, любыя, ёсць —*
*Мне ў ваш гонар заўсёды спяваць,*
*Адчуваць у душы маладосць*
*І высока у мроях лунаць.*

*І куды б ні занёс мяне лёс —*
*Вы не знікніце з сэрца майго.*
*Я вярнуся да вашых бяроз,*
*Прылячу да святых берагоў...*

### * * *

*Які спакой! І ўжо не спіш…*
*Зноў ранак белы ўліўся ў хату,*
*І ты няўбачаны стаіш,*
*Анёл-ахоўнік мой крылаты.*

*Цябе заўважыць нельга мне,*
*Але прысутнасць адчуваю.*
*Ты — Божых высяў пасланец,*
*Які мяне аберагае.*

*Ты ад мяне не адлятай —*
*Ні ўдзень, ні ў сонны позні вечар,*
*Святыя крылы расхінай,*
*Ратуй ад крыўды чалавечай.*

### Івану Дацкевічу

*Ці помніш, Паэце, скажы,*
*Як бегаў калісьці малечай*
*Па роснай траве на мяжы,*
*Пад сонечна светлай сінечай?*

*А потым, чым ты даражыў, —*
*Гарэла ў сусветным пажары,*
*І ў жудасным тым міражы*
*Усе руйнаваліся мары.*

*Лёс вырваў, бы дрэўца, цябе —*
*Жыўцом ад радзімае глебы,*
*Каб тут расквітнець не паспеў —*
*Панёс пад уральскае неба.*

*Ды ўсё-такі мудры Гасподзь*
*Працягваў руку дапамогі,*
*Выспельваў духоўную моц,*
*Да вернай выводзіў дарогі.*

*Даў творчыя крылы ўзляцець,*
*І вопыт набыць прыжыццёвы,*
*І гэтак узнёсла запець —*
*Пра вечнасць душы і Любові.*

*Дай Бог табе доўга крыляць*
*Пад роднаю зоркай гаючай*
*І гэтак жа слаўна спяваць*
*Душой сапраўды неўмiручай!*

### * * *

*Абвейвае вецер мой сад,*
*Здзімаючы квецень са слівы,*
*І кружыцца з ёю, шчаслівы,*
*І сыплецца ёй неўпапад.*

*А светлае дрэўца — ужо*
*Паволі, пакрышку цямнее,*
*І дол ад пялёсткаў бялее,*
*Бы воблачкам снежань сышоў...*

### * * *

*З родным словам пасябрую,*
*Парадніюся з песняй маці —*
*Заспяваю, хай пачуюць*
*Лес, палі і сенажаці.*

*А пачуўшы — адгукнуцца*
*Звонкім рэхам-перабежкай,*
*Зоры ў небе засмяюцца*
*Прамяністаю усмешкай.*

*Залюбуецца той песняй*
*Месяц ясны, вечаровы...*
*Маё роднае прадмесце,*
*Не зракайся роднай мовы!*



Фота Станіслава Абары

## Алесь ШЫРКОЎ



### * * *

*Дождж, як радыст*
*адмысловы,*
*Шпарка марзянкаю б'е:*
*Кропкі, працяжнікі, словы —*
*Іх адрасуе ён мне.*
*Ды не магу разабрацца,*
*Знакі ўсе ў словы звязаць,*
*Што па сваёй дзіўнай рацыі*
*Хоча ён мне перадаць.*
*Можа, аб чым папярэдзіць*
*Грэшную нашу зямлю…*
*Што ж гэтак*
*сэрца вярэдзіць,*
*І да світання не сплю?*
*Кроплі,*
*прыцішце свой грукат*
*Гэтай начною парой.*
*Дождж, абагрэй свае рукі*
*Пасля сцюдзёных вятроў.*
*І ўжо калі з аблачынак*
*Зноўку марзянкай праб'еш,*
*Ноччу наступнай, магчыма,*
*Я зразумею цябе.*

### Прабач, матуля…

*Цябе даўно няма,*
*А сонца яшчэ свеціць,*
*І круціцца Зямля,*
*І я іду па свеце.*
*Усе свае гады*
*Я на плячах трымаю.*
*А вось іду куды,*
*Не ведаю — не знаю.*
*Я да твайго крыжа*
*Так рэдка прыпадаю.*
*Ды дзе і мне ляжаць,*
*Ужо я прыглядаю.*
*Лісты надзей на брук*
*Не ўсе яшчэ апалі.*
*Ды ўсё ж ласкавых рук*
*Мне гэтак не хапае.*
*Спрадвечны абярог,*
*Майго дзяцінства слодыч,*
*Цябе я не бярог,*
*Калі былі мы побач.*
*Быў чэрствы і глухі,*
*Сцяжынку браў не тую.*
*За ўсе мае грахі*
*Прабач мяне, матуля!*

### Віруюць зямныя дарогі

*Віруюць зямныя дарогі…*
*А хто іх калі распачаў?*
*Напэўна, дарога — ад Бога,*
*Як крыж —*
*ад пляча да пляча.*
*Ішлі на крыжы і на плаху*
*За ісціну продкі мае.*
*І сёння ўжо*
*з Млечнага Шляху,*
*Здаецца, глядзяць на мяне*
*Спагадліва, шчыра, цікаўна:*
*Ці так па іх сцежках іду,*
*І што на Зямлі тут*
*няспраўна —*
*Усё ў іх адтуль на віду.*
*І хочацца мне прыпыніцца*
*У гэтых далёкіх вяках,*
*На зоркі святыя маліцца,*
*Што ціха струменіць рака.*
*Віруюць зямныя дарогі,*
*Вядуць ад мяжы да мяжы.*
*Усё, што мы маем, — ад Бога:*
*І пекла, і рай, і крыжы.*

### ***

*Майго дзяцінства*
*кволы карабель,*
*Ты зведаў не адну віхуру злую.*
*І праз гады сягоння да цябе*
*Я зноў*
*сваім фарватарам вяслую.*
*Шчымліва узыходжу*
*на парог,*
*Трывожуся,*
*хто дзверы мне адчыніць…*
*Сышліся тут*
*выток ўсіх дарог*
*І свецяцца*
*ў матуліных маршчынах.*



# Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Сістэма натуральнага адбору

## *Фэнтэзі*

Нарэшце я змагла добра яго разгледзець. Візуальна, я маю на ўвазе, а не праз унутраны зрок, як раней…

Аб'ект майго цярплівага чакання якраз накіроўваўся да ўваходу ў парк. Але не адзін, што было б проста ідэальным варыянтам, а ў кампаніі двух сябрукоў, самых звычайных маладых людзей, якія нічога звышасаблівага з сябе не ўяўлялі. А значыцца, яны былі лішнімі тут, гэтыя сябрукі…

Што ж, такі варыянт развіцця падзей я таксама прадугледзела загадзя.

Каля паркавай брамы, іржавай і перакошанай, аб'ект раптам спыніўся (не без маёй дапамогі, зразумела), павярнуўся і, ляпнуўшы сябе далонню па лбе, хутка пашыбаваў у зваротным напрамку.

— Ты куды, Дзімка? — запознена выгукнуў яму ў спіну адзін з сябрукоў. — Забыўся чаго?

— Забыўся! — не павярнуўшыся, кінуў у адказ аб'ект (ён жа Дзімка). — Ідзіце, я вас даганю!

Далей усё пайшло як па масле. Сябры Дзімкі рушылі далей, а сам ён, ступіўшы на бакавую сцяжынку, раптам спыніўся і пачаў недаўменна азірацца па баках…

І яго можна было зразумець…

«Кінуўшы» хлопцу нечаканую думку пра штосьці забытае і празмерна важнае (жыццёва неабходнае нават!), я так і не паспела ўцяміць, што ж такога важнага і нават жыццёва неабходнага мог забыць гэты самы Дзімка. І галоўнае, дзе канкрэтна ён мог забыць тое «жыццёва неабходнае»?

Таму я хуценька змяніла версію, бо вырашыла, што аб'екту тэрмінова спатрэбілася набыць некалькі талончыкаў на аўтобус-тралейбус у бліжэйшым кіёску «Саюздруку». Тое, што ў хлопца ў кішэні мог быць праязны на ўсе віды гарадскога транспарту, мне неяк не прыйшло ў галаву… ды, калі казаць шчыра, гэта не мела аніякага значэння.

Каля кіёска Дзімку давялося адстаяць невялікую чаргу, але я тут была зусім нават ні пры чым. Чарга ўтварылася сама па сабе, так што, калі аб'ект (ён жа Дзімка) зноў уваходзіў у перакошаныя і назаўсёды расчыненыя вароты парку, сябрукі ягоныя былі ўжо даволі далёка.

А значыцца, можна было пачынаць.

«Увага! — у думках падала я каманду тром п'яным мярзотнікам, якія ўвесь гэты час паслухмяна хаваліся ў зарасніку здзічэлага бэзу. — Падрыхтаваліся!»

Мярзотнікаў я знайшла і спецыяльна адлавіла непадалёку адсюль. І адлавіла ў той крытычны момант, калі яны, з рогатам і шматлікімі нецэнзурнымі выразамі, спрабавалі зацягнуць у кусты дзвюх старшакласніц, якія прагульвалі ў гэтым закінутым парку нейкі свой ці то ўрок, ці то факультатыў. Ды яшчэ і курыць спрабавалі, пігаліцы!

Вядома ж, трэба было іх за гэта прыкладна пакараць (мярзотнікаў, я маю на ўвазе, не старшакласніц), але ў мяне меліся на гэтых п'яных спакуснікаў свае віды. І таму, поўнасцю авалодаўшы іх свядомасцю, я хуценька адвяла ўсю тройцу як мага далей ад заплаканых і перапалоханых ахвяр, а дакладней — у здзічэлы і таму даволі калючы бэз. А зарумзаным шалахвосткам загадала (у думках, зразумела ж, не ўголас) тэрмінова пакінуць небяспечны парк і бягом імчаць на свой прагуляны ўрок (ці факультатыў). Нічога, што столькі часу прайшло. Няхай толькі прабачэння ў настаўніка папросяць за спазненне…

Так што ўсё пакуль ішло як па масле. Аб'ект (ён жа Дзімка), весела насвістваючы, ішоў па цяністай алеі парку, паступова набліжаючыся. П'яныя мярзотнікі таксама былі ў форме і толькі чакалі апошняй маёй каманды… Ну, а я сама размясцілася так, каб аб'ект са сваёй сцяжынкі змог мяне ўбачыць, як толькі паверне ўлева разам з паваротам сцяжынкі.

Патрэбную каманду мярзотнікам я дала загадзя, і калі падвопытны Дзімка апынуўся ў полі майго зроку (а я ў полі ягонага зроку, адпаведна), гэтыя тры п'яныя дэбілы ўжо адрываліся, як кажуць, па поўнай. Двое моцна трымалі мяне за рукі, а трэці, па ўсім бачна, самы галоўны ў іх п'янай хеўры, парагатваючы, слініў мне шыю і шчаку сваімі пракурана-смярдзючымі губамі. А адначасова з тым яшчэ і за грудзі хапаў, спрабуючы расшпіліць блузку, што было ўжо поўнай імправізацыяй з ягонага боку, бо каманды да такога я пакуль не давала.

Гэтая ягоная самастойнасць у прынманні рашэнняў павінна была мяне насцярожыць, але чамусьці так і не насцярожыла. І дарэмна, як высветлілася ў далейшым.

Але пакуль усё ішло дакладна па плане і з боку староннага назіральніка выглядала яшчэ як натуральна.

Прынамсі, павінна было так выглядаць.

— Адпусціце! — выгукнула я абурана. — Што вы сабе дазваляеце?!

І адразу ж вырашыла, што ўзяла не зусім тую, як кажуць, танальнасць. Занадта ўжо літаратурна, кіношна, неяк больш натуральна сябе паводзіць трэба, у першую чаргу, больш напалохана, ці што.

— А-а-а! — залямантавала я, звіваючыся ўсім целам у дарэмных спробах вызваліцца. — Дапамажыце хто-небудзь!

І, адначасова з гэтым, краем вока зірнула на аб'ект. Якія, цікава, дзеянні магчымыя з ягонага боку?

Дзеянні даследуемага аб'екта і на самой справе аказаліся даволі цікавымі і зусім непрадказальнымі. Ніяк не адрэагаваўшы на адчайны мой крык і нават не зірнуўшы на мяне, гэты бамбіза (два метры з гакам, спартсмен-каратыст і ўсё такое іншае) уціснуў галаву ў плечы і амаль подбегам прадэфіляваў міма «мілай» нашай кампаніі і гэтак жа хутка без аглядкі пачаў аддаляцца.

Вось жа казёл! Вось жа слімак баязлівы! А я яшчэ так горача адстойвала ўчора ягоную нікчэмную кандыдатуру перад Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй!

Я так засмуцілася з-за відавочнага свайго промаху, што зусім страціла кантроль над сваімі «падначаленымі», у першую чаргу, над тым з іх, які і раней крыху імправізіраваў, а я, дурніца, увагі тады на гэта не звярнула. І нават цяпер занадта позна адчула небяспеку…

Ва ўсялякім разе, правільна адрэагаваць на кулак, які цэліў проста ў твар, я так і не змагла.

Удар быў страшны, асабліва для маёй далёка не асілкавай камплекцыі. Мне нават падалося, што ў галаве узарвалася бомба… а тут яшчэ, падаючы, балюча трэснулася патыліцай аб нейкі ці то пень, ці то камень. Поўнай адключкі не адбылося, але гэтыя два ўдары так на мяне падзейнічалі, што поўнасцю парушылі і без таго не асабліва трывалую сувязь паміж мной і трыма маімі падапечнымі.

Вось тут я поўнасцю адчула ўвесь боль і адчай няшчасных прагульшчыц, нібы цалкам улезла ў іх шкуру, так сказаць! Гэтыя тры мярзотнікі наваліліся ўсе разам і пачалі, з рогатам і самымі адборнымі мацюкамі, зрываць з мяне адзенне. І адначасова мацаць потнымі лапішчамі па самых інтымных месцах…

У такой вось крытычнай сітуацыі ўзнавіць, хай сабе і часткова, страчаны кантроль над іх свядомасцю, затуманенай алкаголем і распаленай самымі пажадлівымі інстынктамі, я не змагла. Адзінае, што я магла рэальна зрабіць у дадзены момант, проста знішчыць усіх трох (дакладней, проста загадаць ім памерці). Але якраз гэтага я і не магла сабе дазволіць ні ў якім разе.

Забіваць я мела права толькі для выратавання ўласнага (а ў некаторых прадугледжаных Кодэксам выпадках і чужога) жыцця, але на жыццё маё замаху з боку гэтых трох п'яных дэбілаў якраз і не было. Замах быў на нешта іншае... Але гэтае «іншае», на вялікі мой жаль, пад катэгорыю «забойства дзеля выратавання» ніяк не падпадала.

І вось, калі я прыйшла ўжо ў поўны адчай, а гэтыя трое мярзотнікаў свайго амаль дасягнулі, адбылося нечаканае…

Зусім побач пачуўся чыйсьці абураны ўскрык, потым да майго слыху данёсся хлёсткі гук удару… і той з тройцы, які ўжо наваліўся на мяне, раптам кульнуўся кудысьці ўбок з перакошанай ад болю фізіяноміяй. І адначасова я адчула сябе свабоднай.

Потым прыўзняла галаву і агледзелася па баках.

А непадалёку ад мяне ў поўным маўчанні біліся чатыры чалавекі.

Дакладней, тры і адзін.

І, вядома ж, гэтаму аднаму прыходзілася несалодка.

Але я была ўжо на нагах, да таго ж, сярдзітая да немагчымасці.

Не, забіваць іх я па-ранейшаму не збіралася, але прыкладна пакараць. чаму б і не! І я з уяўнай асалодай паслала кожнаму з трох мярзотнікаў па адным кароценькім імпульсе.

А больш і не спатрэбілася!

Адразу ж забыўшыся і пра мяне, і пра нядаўняга свайго праціўніка, усе тры пажадлівыя ідыёты прыняліся раз'юшана і ашалела лупасіць адзін аднаго па азызлых ад штодзённага п'янства фізіяноміях.

А іх нядаўні праціўнік (зусім малады яшчэ хлопец) моўчкі стаяў побач і са здзіўленнем на ўсё гэта пазіраў, нічога пакуль не разумеючы. Нават пра кроў з уласнага носа забыўся… як і пра вока, якое ад трапнага ўдару кагосьці з трох пачынала ўжо заплываць.

Кроў яму я ўмомант спыніла, потым хуценька залячыла пашкоджанае вока і прывяла ў належны парадак адзенне (зняла з джынсаў крывавыя плямы, «адрамантавала» падраныя месцы на тэнісцы і ўсё такое). Потым падышла бліжэй і спынілася побач.

— Ну, усё, хадзем! — сказала я ласкава. — Хопіць за дурнямі назіраць! І, дарэчы, дзякуй за дапамогу!

— Няма за што! — машынальна адказаў хлопец і толькі пасля гэтага схамянуўся і паглядзеў на мяне дзіўным позіркам.

Штосьці бянтэжыла майго нечаканага выратавальніка… і я нават ведала, што канкрэтна збівала яго з панталыку.

Мае паводзіны.

Дзяўчына, якая толькі цудам пазбегла згвалтавання, павінна была паводзіць сябе крыху інакш. І нават не крыху, а зусім інакш!

Але мне ўжо надакучыла прыкідвацца!

— Пайшлі! — паўтарыла я і ўзяла яго за руку. — П'яных ідыётаў не бачыў ці што?

А «п'яныя ідыёты» ужо і на нагах стаяць не маглі. Качаліся па траве, кусаліся, драпаліся, мацярылі адзін аднаго сіплымі галасамі, але ўсё ніяк не маглі спыніцца.

Праўда, усяго гэтага мы ўжо не бачылі. Мы ішлі прэч, дакладней, гэта я ішла прэч і амаль сілком цягнула за сабой хлопца, які па-ранейшаму нічога не разумеў. І ўсё спрабаваў азірнуцца, кінуць, так сказаць, развітальны позірк на сваіх, дакладней, на нашых з ім, нядаўніх крыўдзіцеляў. А потым раптам спытаўся:

— А яны там не пазабіваюць адзін аднаго?

— Не ведаю! — адказала я шчыра і абыякава, потым падумала крыху і яшчэ больш абыякава дадала: — Не павінны, здаецца.

Хапаць адзін аднаго за горла, пароць пальцамі ў вочы альбо прымяняць хоць-якую зброю — нажы, кастэты, нават камяні — мярзотнікі не мелі права (дзейнічала самае жорсткае табу, накладзенае мной). Але ж кулаком таксама можна забіць, тым больш такім здаравенным. Так што я і на самой справе не ведала, чым у іх там справа скончыцца…

Але чым бы яна ні скончылася, я магла са спакойным сумленнем сказаць: Кодэкса не парушыла! Ні адзінага нават пункта! А тое, што прайшла па самай мяжы паміж уяўным парушэннем і простым перавышэннем паўнамоцтваў… гэта нічога! Не я першая…

Куды больш непакоіў мяне ў дадзены канкрэтны момант мой нечаканы выратавальнік. Вунь з якой падазронасцю на мяне пазірае. І на свае джынсы таксама. Напэўна, спрабуе зразумець, куды гэта кроў з іх падзелася? Ці, можа, і не было там аніякай крыві?

Як жа хацелася мне адкрыцца гэтаму смеламу і сімпатычнаму хлопцу, выкласці яму ўсю праўду пра сябе (ці хаця б частку гэтай праўды)… і ў той жа час выкласці яму гэтую самую праўду я ніяк не магла! Па-першае, не факт, што паверыць, а па-другое, калі нават і паверыць…

Нельга!

Права такога не маю!

Вось таму, першаму (Дзімку, якога выбрала наша паважаная камісія пасля стараннага вывучэння ўсіх ягоных антрапалагічных дадзеных), вось яму я не толькі магла расказаць пра ўсё, але і проста абавязана была гэта зрабіць. Увесці, так сказаць, у курс спраў, калі б ён…

Калі б ён прайшоў адбор, дакладней, гэтую самую першую ягоную стадыю…

Якую ён праваліў, і праваліў з трэскам!

— Ты хто?

— Што?

Паглыбленая ў невясёлы свой роздум, я і не зразумела адразу, што гэта да мяне звяртаюцца.

— Маё імя — Ксенія! — прагаварыла я няўважліва. — А ты… як, дарэчы, тваё імя?

Калі шчыра, мне было глыбока напляваць, як завуць гэтага хлопца, тым больш што я і так ведала ўжо ягонае імя: Канстанцін. Але ж ён быў самым звычайным чалавекам і таму быў зусім не прыдатны на ролю кандыдата, а ўсё астатняе…

Усё астатняе проста не мела аніякага значэння.

— Забудзься! — рэзка, магчыма, занадта рэзка, прагаварыла я. — Нічога гэтага не было!

І, павярнуўшыся, не пайшла нават — пабегла прэч. І заплакала, упершыню за апошнія некалькі гадоў. Бегла і плакала, плакала і бегла…

І праклінала ў душы гэтую дурацкую сістэму адбору…

# «Калмыкам ёсць што расказаць беларусам і ўсяму свету!..»


Рыма Ханінава ля храма Буды.


Міхаіл Хонінаў з пісьменнікамі ў роднай вёсцы Якуба Коласа, пачатак 1960-х.

Для калмыцкага пісьменніка і беларускага партызана Міхаіла Хонінава Беларусь была другой радзімай. Цікаўнасць да беларускай літаратуры выяўляе ў сваёй творчасці і яго дачка — пісьменніца і літаратуразнаўца Рыма Ханінава, якая жыве і працуе ў Элісце (Калмыкія). З ёй і сустрэўся наш карэспандэнт.

**— Рыма, сёння шмат спрачаюцца пра глабалізацыю, месца малых народаў у геапалітычных працэсах. Ці ўтульна адчувае сябе калмыцкая літаратура?**

— Эпоха глабалізацыі для літаратуры мае свае плюсы і мінусы. Для калмыцкай літаратуры — асабліва. З аднаго боку, яна павінна быць інтэгравана ў агульны літаратурны працэс — расійскі, федэральны, а таксама сусветны, з другога — развівацца ў нацыянальнай прасторы. У першым выпадку інтэграцыя прадугледжвае перакладчыцкую дзейнасць, каб нацыянальная літаратура была перакладзена на мовы народаў свету. Калі раней у Савецкім Саюзе была магутная індустрыя перакладу ў крос-культурным маштабе (узаемныя пераклады на рускую з моў народаў краіны і наадварот), то цяпер яна па вядомых прычынах разладзілася. У нас у Калмыкіі ўзаемныя пераклады ажыццяўляюцца, як правіла, у прыватным парадку, выкарыстоўваюцца асабістыя сувязі. Хаця пісьменніцкія арганізацыі спрабуюць дапамагчы сваім сябрам, праўда, гэтая дапамога не мае пастаяннага характару. Кніг перакладаў няма ўжо даўно, у асобных выпадках такі выпуск мае юбілейную скіраванасць. Ёсць яшчэ раздзелы ўласных перакладаў сяброў-пісьменнікаў у аўтарскіх кнігах. Напрыклад, у нядаўнім двухтомным зборы твораў паэта Эрдні Эльдышава. Зборы твораў пісьменнікаў старэйшых пакаленняў выходзілі звычайна без іх перакладаў, нягледзячы на тое, што яны перакладалі шмат болей — і класікаў, і сучаснікаў. Сёння пераклады друкуюцца ў перыёдыцы.

Адзін з маштабных праектаў 2000-х гадоў — анталогія літаратуры народаў Паўночнага Каўказа ў перакладзе на калмыцкую мову — перараўся на першым томе, выдадзеным у Элісце: няма калектыўнага фінансавання рэспублікамі-ўдзельнікамі праекта.

**— А як жа з выхадам у свет праз рускую мову… Ці не забыліся на гэты шлях?**

— Да 400-годдзя ўваходжання калмыцкага народа ў склад Расійскай дзяржавы ў 2009 годзе была выдадзена пасля паўвекавога перапынку другая анталогія — «Паэзія Калмыкіі». Ужо на дзвюх мовах. У вядомых перакладах С. Ліпкіна, Ю. Нейман, Я. Казлоўскага, А. Нікалаева і інш. Новыя пераклады ажыццяўляюцца звычайна сіламі мясцовых літаратараў. Я, напрыклад, стала перакладаць паэмы і вершы бацькі на рускую мову, перакладаю часам і вершы другіх калмыцкіх паэтаў — К. Эрэнджанава, Д. Кугульцінава, Т. Бямбеева, В. Шуграевай, Э. Тэпкенкіева.

Раней перыядычна праводзіліся Дні літаратуры ў Савецкім Саюзе ў розных рэгіёнах, што спрыяла развіццю творчых кантактаў, выданню кніг. У сваю чаргу, былі візіты ў адказ у тыя ці іншыя куточкі Савецкага Саюза. Цяпер гэтага, на жаль, няма. Некальки гадоў таму мне пашчасціла па запрашэнні калег пабываць у Дагестане на свяце «Белых жураvoў». Я напісала цыкл «Дагестанскія старонкі», у якім ёсць і вершы-прысвячэнні Расулу Гамзатаву, яны нядаўна надрукаваны ў Махачкале ў кнізе пра вялікага паэта.

У свой час у Маскве ў выдавецтве «Прогресс» выходзілі зборнікі выбраных твораў савецкіх пісьменнікаў на галоўных еўрапейскіх мовах. Напрыклад, кніга Д. Кугульцінава з паралельнымі перакладамі — на рускай і англійскай. Гэта першае і апошняе ў гісторыі калмыцкай літаратуры такое выданне, якое пабачыла свет у сярэдзіне 1970-х… У сучаснай транскультурнай прасторы ўзрастае роля перакладчыка як пасрэдніка паміж літаратурамі, тым болей валодаючага некалькімі мовамі.

**— А ці ўплываюць на гэтыя працэсы новыя тэхналогіі?**

— Ёсць, зразумела, інтэрнэт, шматлікія літаратурныя сайты. Некаторыя нашы пісьменнікі выстаўляюць свае творы ў сецыве, але на рускай мове, каб з імі пазнаёмілася шырэйшая аўдыторыя. Да гэтага часу няма сайта калмыцкай літаратуры, як і сайтаў асобных пісьменнікаў. Галоўная прычына адна — няма дзяржаўнага фінансавання. Два гады таму я адкрыла сайт: *www.ханинова.рф*.

На гэтым сямейным сайце — матэрыялы пра майго бацьку, пра дзядзьку-паэта, пра сястру-літаратуразнаўцу, пра мяне. Дзякуючы сайту я знайшла сяброў-калег, з якімі падтрымліваю творчыя стасункі, — у ЗША, Еўропе, у тым ліку і на постсавецкай прасторы — у прыватнасці, у Беларусі. Бацькоўскія і мае творы выстаўлены там на розных мовах, таму такі доступ і забяспечвае чытацкую зацікаўленасць.

У другім выпадку развіццё калмыцкай літаратуры перажывае, на мой погляд, крызіс. Гэта абумоўлена аб'ектыўнымі прычынамі — агульнай стратай літаратурацэнтрычнасці, горшым веданнем роднай мовы чытачамі, зменай пісьменніцкіх пакаленняў, адсутнасцю вартага фінансавання аўтарскай прадукцыі, няведаннем творчай моладдзю нацыянальнай мовы — яны пішуць на рускай, — адсутнасцю таленавітых новых імёнаў. Сярод суб'ектыўных прычын можна назваць няздольнасць пісьменнікаў шукаць уласныя шляхі для змены сітуацыі да лепшага, інерцыю чакання дзяржаўнай падтрымкі.

Адна са спадарожных праблем — змена пакаленняў у калмыцкім літаратуразнаўстве. Новыя крытыкі і літаратуразнаўцы вывучаюць у асноўным фальклор, класікаў. Сучасная літаратура мэтанакіравана не адсочваецца ні агляднa, ні персанальна, асабліва рускамоўная калмыцкая паэзія, якой належыць адна з вядучых роляў у сучасным літаратурным працэсе Калмыкіі. Кафедра рускай і замежнай літаратуры Калмыцкага дзяржуніверсітэта, якой я кірую, у гэтым годзе выдала калектыўны дапаможнік «Сучасная рускамоўная паэзія Калмыкіі». Усе гэтыя ўжо састарэлыя праблемы даўно патрабуюць вырашэння, падтрымкі на дзяржаўным узроўні.

**— Здалёк, з Элісты, ці відаць вам сённяшняя беларуская літаратура?**

— Думаю, што не вельмі… У нас у рэспубліцы дзве пісьменніцкія арганізацыі, ніводная з іх не падтрымлівае, на жаль, афіцыйных зносін з беларускімі калегамі. Раней жа былі персанальныя кантакты — у Давіда Кугульцінава і Міхаіла Хонінава з многімі беларускімі паэтамі, празаікамі. У асноўным сёння сувязі скіраваны на суседнія рэгіёны — Паўночны Каўказ, Астраханскую вобласць, а таксама на Маскву.

**— А што ўвогуле калмыцкі чытач ведае пра беларускае мастацкае слова? Каго з нашых творцаў, празаікаў перакладалі на калмыцкую мову?**

— У ВНУ на філалагічных спецыяльнасцях раней чыталі курс «Літаратура народаў СССР», цяпер — «Літаратура народаў Расіі», якая выкладаецца ў скарочаным аб'ёме, хутка зусім выйдзе з дысцыплін бакалаўрыята, напрыклад, у нашым універсітэце. Акрамя таго, шмат выдавалася ў перакладах беларускай літаратуры. Да гэтага часу многія ведаюць, скажам, пра творчасць Васіля Быкава.

Калмыцкі чытач знаёмы з класікай беларускай літаратуры — Я. Купалам, Я. Коласам, а таксама М. Танкам, А. Куляшовым, П. Броўкам і інш. У 1960-я гг. калмыцкія пісьменнікі шмат перакладалі на калмыцкую мову згаданых аўтараў: выходзілі асобныя падборкі ў мясцовых выданнях. Зрэдку гэта мела працяг у 1970-я гг. Пасля наступіў доўгі перапынак, выклiканы таксама і развалам СССР. Мяркую, што гэта звязана і з адсутнасцю кантактаў з калегамі.

**— Ваш бацька — вялікі сын калмыцкага народа, вядомы пісьменнік Міхаіл Хонінаў — ваяваў у Беларусі… Наколькі гэтая сувязь паўплывала на творчасць вашага бацькі?**

— Так, юнацтва майго бацькі прыйшлося на Вялікую Айчынную вайну. Ён пайшоў у Чырвоную Армію ў кастрычніку 1939 года, вайну сустрэў на Смаленшчыне, партызаніў у Беларусі пад імем Мішы Чорнага, быў камандзірам роты. Вайна для яго закончылася ў жніўні 1944 года, калі яго дэмабілізавалі як калмыка ў сувязі са сталінскімі рэпрэсіямі. Трынаццаць гадоў ён разам з калмыцкім народам адбываў сібірскую высылку. Пачатак літаратурнага шляху бацькі адносіцца да сярэдзіны 1930-х гадоў, але як пісьменніка яго, канечне ж, сфарміравала вайна. Ён належыць да так званай «лейтэнанцкай» літаратуры. Міхаіл Матусоўскі назваў яго калмыкам Дзянісам Давыдавым. У калмыцкай літаратуры ён адзіны паэт-партызан.

Бацька называў Беларусь сваёй другой радзімай, прысвяціў ёй многія старонкі сваёй прозы, публіцыстыкі, паэзіі. Першая яго паездка пасля рэабілітацыі калмыцкага народа адбылася ў Беларусь, на Магілёўшчыну і Міншчыну, дзе ён ваяваў. Ён часта сустракаўся са сваімі баявымі пабрацімамі.

**— З кім з беларускіх пісьменнікаў сябраваў Міхаіл Хонінаў?**

— Петруся Броўку лічыў сваім хросным бацькам: той пісаў прадмовы да яго кніг на рускай і беларускай мовах. Сябраваў з многімі пісьменнікамі — Максімам Танкам, Васілём Быкавым, Іванам Шамякіным, Аляксеем Пысіным, Рыгорам Барадуліным, Пятром Шасцерыковым, Анатолем Грачанікавым, Антонам Бялевічам, Міколам Ткачовым і іншымі. У нашай сямейнай бібліятэцы захаваліся іх кнігі з аўтографамі, перапіска. Шмат каму з іх бацька прысвяціў свае вершы. З дзяцінства мы раслі, чытаючы беларускую класіку і сучасную літаратуру. Ёсць у нас і кніга ўспамінаў скульптара Заіра Азгура, які зрабіў бацькаў бюст. Гэтая работа вельмі спадабалася бацьку.

**— Асобная тэма ў перакладчыцкай працы Міхаіла Хонінава — кніга вершаў Янкі Купалы… Вы як літаратуразнаўца вылучаеце гэтую працу як пэўны этап у творчасці бацькі?**

— Большасць бацькавых перакладаў — вершы Купалы. Напачатку гэта былі газетныя публікацыі, затым выйшла да юбілею народнага песняра Беларусі невялікая кніга ў Калмыцкім кніжным выдавецтве. Бацька вельмі шанаваў Купалу-паэта. У час вайны Міхаіл Хонінаў, канечне ж, авалодаў беларускай мовай. Яе мяккасць, мілагучнасць, цеплыня былі для яго не менш дарагімі, чым мова маці — калмыцкая мова. Таму з надзвычайнай асалодай перакладаў вершы Якуба Коласа, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова і іншых паэтаў Беларусі. Нават збіраўся гэтыя пераклады выпусціць асобнай кнігай. Бацьку запрашалі ў Беларусь на юбілеі Янкі Купалы. Захаваліся фотаздымкі з тых сустрэч, газетныя публікацыі.

**— У Беларусі выйшла і дзве кнігі вершаў Міхаіла Хонінава ў перакладзе на беларускую мову…**

— Так, і бацька быў вельмі ўдзячны за гэта. Па словах бацькі, адна калмычка назвала свайго сына Янкам у гонар Купалы…

**— Ведаю, што беларускіх паэтаў перакладалі і Санджы Каляеў, Лiджы Інджыеў, Бося Сангаджыева…**

— І гэта вельмі ўзроўневыя пераклады. Ды і выбар арыгіналаў быў зусім не выпадковым. Вось бы аб'ядналіся беларусам і калмыкам у сваіх памкненнях і склалі на калмыцкай мове анталогію беларускай паэзіі… Нашы папярэднікі глебу для гэтага падрыхтавалі.

**— У Міхаіла Хонінава ёсць паэма пра Хатынь. Як нарадзілася ідэя гэтага твора?**

— Мяркуючы па сюжэце паэмы, бацька не так далёка і партызаніў ад хатынскіх мясцін… Магчыма, быў знаёмы з жыхарамі гэтай вёскі. У любым выпадку, Хатынь у яго была перад вачыма… У 1975 годзе, зімой, у Мінску Міхаіл Хонінаў удзельнічаў на Усесаюзнай нарадзе пісьменнікаў і крытыкаў, прысвечанай 30-годдзю Вялікай Перамогі. Удзельнікі нарады наведалі Хатынскі мемарыял. Быў там і Давід Кугульцінаў, які напісаў верш «Хатынь» з прысвячэннем Аркадзю Куляшову. А яшчэ раней, у студзені таго ж года, бацька пабываў у В'етнаме. Ён, канечне ж, ведаў пра в'етнамскую вёску Сонгмі. Ведаў пра чэшскую вёску пакутніцу Лідзіцэ. Задумаў напісаць трыпціх. Паэму «Званы Хатыні» пераклаў на рускую мову маскоўскі паэт Аляксандр Нікалаеў, з якім бацька доўгі час сябраваў. Іх збліжала ваенная мінулае. Нікалаеў таксама змагаўся з фашыстамі на тэрыторыі Беларусі.

**— Што з калмыцкай літаратуры, на ваш погляд, варта было б абавязкова перакласці на беларускую мову?**

— У свой час у «Звяздзе» друкавалася часткамі аўтабіяграфічная аповесць М. Хонінава «Міша Чорны — гэта я!». Чаму б яе цяпер не выдаць асобнай кнігай?!

Думаю, што варта было б перакласці на беларускую мову калмыцкі фальклор. Чаму б не выдаць па-беларуску лірыку зучасна пайшоўшага з жыцця Джангра Насунава, які, праўда, свой калмыцкі светапогляд выкладаў па-руску. Словам, лічу, нам ёсць што расказаць беларусам і ўсяму свету…

Гутарыў
**Хведар ЛАЗОЎСКІ**

# Мода на «Бэўвульфа»



Не так даўно ў нашай краіне асобным выданнем пабачыў свет першы беларускамоўны пераклад знакамітай англа-саксонскай эпічнай паэмы «Бэўвульф». Яго аўтар — унук беларускага класіка Янкі Брыля Антон Францішак Брыль.
Выданне адметнае не толькі тым, што змяшчае сам тэкст паэмы. У кнізе выдатная прадмова перакладчыка, каментарыі, індэкс эпізодаў і ўстаўных аповедаў, радаводы, спіс літаратуры… Пра гісторыю рукапісу, адметнасці алітэрацыйнага верша і спосабы перадачы яго сродкамі беларускай мовы, пра імкненне зрабіць пераклад, як вучыў Толкін, адначасова і паэтычным, і традыцыйным спадар Антон Францішак досыць падрабязна распавядае ў прадмове. Таму ў гутарцы з перакладчыкам мы закранаем крыху іншыя пытанні.

**— Думаецца, вам будуць удзячныя ўсе беларускія выкладчыкі, якія чытаюць курс лекцый па літаратуры Вялікабрытаніі. Выданне стане найлепшым дапаможнікам для студэнтаў. Чаму для перакладу вы абралі менавіта «Бэўвульф»?**

— Спачатку мяне прывабіла паэтычная тэхніка — было цікава, ці атрымаецца стварыць пабеларуску нейкі пераканаўчы адпаведнік алітэрацыйнага верша. Паспрабаваў перакласці пачатак паэмы, пасля яшчэ крышку, а пасля неяк само сабою аказалася, што трэба рабіць цалкам. Што датычыць складаных пытанняў паэмы, між іншым, то тут трэба папярэдзіць: пераклад — што беларускі, што рускі, што на любую іншую мову — не замяняе арыгінала. У перакладзе можна з тэкстам пазнаёміцца, можна скласці пра яго ўражанне, але тым, хто захоча ўсур'ёз займацца менавіта гэтаю паэмаю, ад арыгінала, зразумела, нікуды не падзецца.

**— На дварэ ХХІ ст., а тут — англа-саксонскі эпас. Як вам падаецца, наколькі гарманічна кніга ўвойдзе ў агульны кантэкст сучаснай беларускай літаратуры і ў наш літаратурны працэс у цэлым?**

— Мне здаецца, добрая паэзія ўпішацца ўсюль і заўсёды. А менавіта ў выпадку «Бэўвульфа» трэба заўважыць яшчэ, што гэта тэкст у пэўным сэнсе сучасны. Шмат стагоддзяў пра яго зусім не памяталі, пасля ён досыць доўга быў прадметам увагі адных толькі навукоўцаў. Сапраўдная «чытацкая мода» на гэтую паэму прыйшла толькі ў ХХ стагоддзі і звязаная ў немалой ступені з іменем Дж. Р. Р. Толкіна, які вельмі захапляўся «Бэўвульфам».

**— Ці можна сказаць, што «Бэўвульф», яго пераклад абавязкова павінен прысутнічаць у кожнай нацыянальнай літаратуры?**

— Залежыць ад таго, напэўна, наколькі доўгі той спіс абавязковых перакладаў і ці ёсць ён увогуле. Напрыклад, на французскую «Бэўвульфа», калі не памыляюся, пераклалі толькі год з трыццаць таму.

**— А на якія мовы ўвогуле перакладалася паэма і дзе выходзіла асобным выданнем?**

— На сучасную англійскую мову — шмат і пакуль, здаецца, не думаюць спыняцца. Перакладалі — хто вершам, хто прозаю — на французскую, рускую, нямецкую, польскую... Украінскі пераклад апярэдзіў беларускі на некалькі гадоў.

**— Ведаю, што падчас працы над перакладам урыўкі з паэмы вы змяшчалі ў сваім блогу. Ці ўплывалі чытачы і іх каментарыі на працэс працы?**

— Зразумела! Шмат добрых заўваг было, напрыклад, ад паэта Ігара Кулікова, які пільна цікавіцца літаратурай таго перыяду. Калі б я не бачыў цікавасці чытачоў блога, магчыма, закінуў бы працу недзе на паўдарозе. Веданне, што гэта камусьці патрэбна, вельмі дапамагае.

**— Ці кансультаваліся з замежнымі навукоўцамі падчас працы над перакладам?**

— Некалькі разоў пісаў лісты з пытаннямі, і на іх, што прыемна, адказвалі. Але нашмат часцей даводзілася шукаць і чытаць даўно напісанае — на кожнае цёмнае месца паэмы знойдзецца па некалькі артыкулаў і кніг, дзе яго разбіраюць, бо твор значны і ўвагаю навукоўцаў не абдзелены.

**— Беларускія даследчыкі літаратуры ўжо ўхвалілі пераклад, і я цалкам з імі згодная. Кніга можа абсалютна ўпэўнена прэтэндаваць на ролю самага знакавага выдання 2013 года. А ці былі нейкія водгукі з боку замежных калег?**

— Украінскай перакладчыцы, Олене О'Лір, беларускі пераклад спадабаўся, што было вельмі прыемна пачуць.

**— Якія планы на будучыню? Магчыма, прадоўжыце запаўняць новыя лакуны перакладу старажытных твораў на беларускую мову?**

— Цяпер займаюся паэзіяй старажытнага Рыма, спрабую для пачатку ахапіць усіх патрошку. Ужо былі апублікаваны невялікія падборкі маіх перакладаў з Катула, Гарацыя, Марцыяла, урывак з Плаўта, вось-вось з'явіцца пераклад чатырох элегій Авідзія.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Тысяча год з гісторыі краю



*Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі прадстаўляе кнігу Эдуарда Загарульскага намесніку прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатолю Тозіку.*

**Зміцер ХВОЙНЫ**

Сёлета ў Беларусі шырока адзначаецца 1025-годдзе хрышчэння Русі. У межах урачыстасцей у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшла прэзентацыя кнігі Эдуарда Загарульскага «Белая Русь з сярэдзіны І тысячагоддзя да сярэдзіны ХІІІ ст.», што пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Гэтая манументальная праца беларускага гісторыка і археолага Эдуарда Загарульскага прысвечана даследаванню аднаго з самых цікавых перыядаў гісторыі Беларусі, які ахопліваe амаль тысячу год. Аўтар прапаноўвае арыгінальныя рашэнні цэлага шэрагу праблем, звязаных са з'яўленнем і рассяленнем славян на тэрыторыі Усходняй Еўропы, у тым ліку на землях сучаснай Беларусі, фарміраваннем славянскага дзяржаўнага ўтварэння Русь і палітычнай гісторыі яе заходніх земель — Белай Русі.

У прыватнасці, у даследаванні падрабязна выкладзены генезіс і асаблівасці розных тыпаў паселішчаў (сельскіх, гарадскіх, замкаў), час і абставіны іх узнікнення, планіроўка, забудова, сістэма ўмацаванняў. Акрамя гэтага, у выданні аналізуецца эканамічнае жыццё Белай Русі: развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, сельскія і гарадскія рамёствы, гандаль. Разглядаюцца складаныя этнічныя працэсы: фарміраванне мовы мясцовага насельніцтва, этнічнай самасвядомасці, культурнай самаідэнтыфікацыі. Глыбока даследуюцца культурныя працэсы, звязаныя з хрысціянізацыяй і славянізацыяй беларускіх земель. Асаблівая ўвага надаецца развіццю манументальнага дойлідства, нават прапаноўваюцца новыя дацыроўкі некаторых помнікаў каменнай архітэктуры.

Адметна, што кніга багата ілюстраваная. Такое выданне, безумоўна, будзе карысным для выкладчыкаў і студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй нашага краю.

## *Паралелі*

# Хай сэрца спатоліць вясна!

**Сяргей ПАНІЗНІК**

Вясной 1988 года выправілася ў В'етнам дэлегацыя ў складзе галоўнага рэдактара Дзяржкамвыда БССР І. Лапцёнка, дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Грышановіча і мяне, тагачаснага загадчыка рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва».

З тае пары мінула 25 гадоў. А ўсё яшчэ з лагодай успамінаецца, як у старажытным горадзе Гюэ заключалася дамова аб творчым супрацоўніцтве з тамтэйшым выдавецтвам «Тхуан Хоа» і новыя сябры дарылі нам перакладзеныя на в'етнамскую мову, выдадзеныя на рысавай паперы кнігі В. Быкава, І. Шамякіна, У. Караткевіча... Прыязна ставіўся да нас паэт Ле Чонг Шам. Ён зацікавіў мяне сваімі вершамі не толькі на в'етнамскай мове, але і напісанымі па-французску. Перакладаць творы мне дапамагаў Ігар Лапцёнак.

Займела мая бібліятэчка і кнігу лірыкі маладой аўтаркі Хоанг Тхі Зуэн. А па вяртанні з В'етнама пошта прынесла з горада Гюэ і неспадзяваны дадатак да зборніка — верш-прысвячэнне. Перастварыць узнёслыя, праніклівыя радкі па-беларуску мне дапамаглі в'етнамскія студэнты, якія вучыліся ў Мінску.

**Хоанг ТХІ ЗУЭН**

### Першая сустрэча

*Наша сустрэча была неспадзеўнай?*
*Мроямі, думкамі з вамі была я.*
*О, пра каханне сказаць я хацела...*
*Ветахам сцьмела сустрэча былая.*
*Зніклі раптоўна. Цяпер я адна.*
*Хай маё сэрца спатоліць вясна!*

*Ах, як далёка цяпер ад мяне вы.*
*Сполахі поўні... І зноў успаміны.*
*І не ратуюць у сэрцы спадзевы.*
*Мы ж у любові быць разам павінны.*
*Вы закаханую помніце ў сне?*
*...Будзь, маладзік мой, заменай вясне!*

# Энцыклапедыя Нясвіжа

**Анастасія ГРЫШЧУК**




«Здаецца, кожны беларус чуў і шмат ведае пра Нясвіж, пра Радзівілаў. Відаць, справядлівымі будуць словы: «Мы гаворым Нясвіж — разумеем Радзівілы, мы гаворым Радзівілы — разумеем Нясвіж». Але не толькі Нясвіж».

Так пачынаецца новая кніга Анатоля Бутэвіча «Таямніцы Нясвіжскага замка», прэзентаваная ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Кніга спалучае навуковыя, дакументальна дакладныя звесткі і мастацкую лёгкасць слова. Калі чытаеш, здаецца, што цябе вядзе за руку па замкавых залах і сцежках парку стары і мудры кашталян. Візуальна гэтае ўражанне падтрымліваецца фотаздымкамі Уладзіміра Шолка, Людмілы Паляшчук, Анастасіі Паддубскай і аўтара кнігі.

«Таямніцы Нясвіжскага замка» — гэта энцыклапедыя, у якой можна знайсці процьму цікавых фактаў. А калі не фактаў, дык легенд. Напрыклад, кажуць, што ў радзівілаўскай калекцыі рэдкіх рэчаў захоўваўся пэндзаль самога Рэмбранта. А яшчэ існуе міф пра тое, што Геранім Фларыян Радзівіл быў бастардам Пятра І. Што, трэба сказаць, вельмі і вельмі верагодна. Ёсць звесткі пра масонскую ложу ў Нясвіжскім замку. Таксама можна даведацца, якім чынам былі звязаныя Антоній Радзівіл і геній нямецкай паэзіі Гётэ (вось гэта ўжо не легенда, а дакладны факт). Не менш цікава пачытаць пра радзівілаўскую бібліятэку, у якой было каля 20 тысяч тамоў.

Прэзентацыя атрымалася святочнай, бо адзначалі не толькі дзень народзін кнігі, але і юбілей самога аўтара. Віншавалі творцу калегі-пісьменнікі, сябры, землякі, прадстаўнікі ўлад, Вялікі тэатр і Нацыянальная бібліятэка, а таксама — мастакі і дырэктары мастацкіх музеяў.


Аліцыя Беднарэк «Madonna nigra (Чорная мадонна)».

# Малюнкі і лічбы

Выстаўка работ студэнтаў Майстэрні шаўкаграфіі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Катавіцах і Майстэрні лічбавай візуалізацыі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Кракаве (Польшча) «PRINT/SCREEN/PRINT» да 27 ліпеня працуе ў мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Таццяна ШЫМУК**

«Print screen», ці скрыншот экрана, — зварот, які адносіцца да лічбавага асяроддзя і ілюструе праграмную дзейнасць Майстэрні лічбавай візуалізацыі на кафедры графікі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Кракаве. Адначасова «screen print», з'яўляючыся англійскай назвай графічнай тэхнікі, у дадзеным выпадку адназначна звязаны з Майстэрняй шаўкаграфіі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Катавіцах.

— Мне як кіраўніку абедзвюх майстэрняў ідэя іх сустрэчы, супастаўлення падаецца лагічнай і цікавай. Я перакананы, што прэзентаваныя на выстаўцы студэнцкія працы дзвюх розных майстэрняў з дзвюх польскіх мастацкіх устаноў вельмі добра дапоўняць адна адну і выдатна спалучацца ў агульнай прасторы, — падкрэсліў прафесар Вальдэмар Вэнгжына.

Нягледзячы на тое, што выбраныя для выстаўкі работы не звязаныя адной праблематыкай, створаныя ў розны час многімі аўтарамі і з'яўляюцца разнапланавымі, у гэтай прэзентацыі можна ўбачыць цікавы агульны элемент. Ім з'яўляецца моладзевая энергія і захопленасць, а таксама зацікаўленасць мастацтвам.

Майстэрня шаўкаграфіі, якой кіруюць прафесар Вальдэмар Вэнгжына і кандыдат навук Дарота Новак-Радзіньска, дзейнічае ў межах Мастацкага факультэта і кафедры графікі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Катавіцах.

Майстэрню звычайна вызначае бачанне прафесара. У дадзеным выпадку яе кіраўнік робіць акцэнт на індывідуалізме, здольнасці крэатыўнага мыслення і перакананні ў тым, што студэнтаў, якія тут працуюць, не ідэнтыфікуюць толькі іх тэхнічныя навыкі. Добрая тэхніка з'яўляецца істотным аспектам творчасці, які дазваляе прафесійна рэалізаваць праект, аднак менавіта ідэйны аналіз павінен быць галоўнай перспектывай бачання. Гэта ідэя ў канчатковым выглядзе мае форму вытанчанай метафары. Адсутнасць літаральнасці ў прэзентацыі схіляе гледача да аналізу схаванага зместу, а форма твора дастасоўваецца да ідэі, намагаючыся як мага больш трапна яе адлюстраваць.

Майстэрня лічбавай візуалізацыі пад кіраўніцтвам прафесара Вальдэмара Вэнгжыны і магістра Якуба Скочака дзейнічае на факультэце графікі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Кракаве. Апрача прысутнага ў назве акрэслення «лічбавы» характар майстэрні ахоплівае значна больш шырокую прастору як у ідэйным разуменні, так і ў тэхнічным. Разам з такімі галінамі, як статычны вобраз, рухомы вобраз, праекцыя, узаемадзеянне ці гук, у майстэрні ёсць


Габрыела Хубнер «Св. Тэрэза».

месца для інтэрмедыяльнай прасторы пошукаў і эксперыментаў. Найважнейшым і самым неабходным элементам у працэсе працы ў межах майстэрні з'яўляецца ідэя і як мага лепшы падбор сродкаў (медыя) для яе выяўлення.

Прадстаўленыя на выстаўцы працы ілюструюць магчымасці і пошукі разнапланавага, нетрадыцыйнага выкарыстання тэхнікі. Выразны эксперыментальны падыход да графічных тэхнік — як лічбавых, так і аналагавых — каштоўны сам па сабе. А ў дадзеным выпадку — яшчэ і аб'ядноўвае абедзве майстэрні.

# Стваральнікі нацыянальнага стылю

Ідэі Адраджэння ахапілі дзясяткі народаў Усходняй Еўропы і Азіі на пачатку XX ст. Яны праявіліся ў літаратуры і мастацтве, і з былых імперый пачалі нараджацца маладыя незалежныя краіны. З запусцення паўсталі новыя культурныя цэнтры. У гэтым кантэксце можна разважаць і пра беларускую культуру.

**Людміла НАЛІВАЙКА, Яўген ШУНЕЙКА**

Доўгі перыяд чакання, калі «сонца загляне ў наша аконца», змяніўся актыўным перыядам фарміравання дзяржавы і мастацтва 1920-х гадоў. Двойчы ўзбуйнялася тэрыторыя Беларусі, і з кожным годам узбуйняліся і здабыткі мастакоў, якія сталі пазіцыяніраваць сябе з новай культурай і аддана служыць ёй. Сярод такіх першых творцаў прафесійнага беларускага мастацтва — мінчане Я. Драздовіч, М. Філіповіч, П. Гуткоўскі, А. Тычына, А. Ахола-Вало, Ф. Выхадцаў і інш., а таксама мастакі віцебскай школы, што прыехалі з Веліжа, — М. Лебедзева, М. Эндэ, В. Волкаў. Бадай, адной з такіх незабыўных вяршынь іх творчага супрацоўніцтва з'яўляецца арганізацыя выстаўкі Слуцкіх паясоў, якая была адкрыта ў красавіку 1927 г. у Беларускім дзяржаўным музеі.

Каб правесці такую значную экспазіцыю, мастакі М. Філіповіч, А. Тычына, М. Лебедзева, В. Дваракоўскі не толькі дапамагалі музейшчыкам збіраць захаваныя ўзоры, але і скіроўваліся ў Эрмітаж, Рускі музей у Ленінградзе, Смаленскі дзяржаўны музей, даследавалі калекцыю Беларускага Дзяржаўнага музея дзеля дакладных замалёвак шэдэўраў нацыянальнага тэкстыльнага мастацтва. Як кажуць, «не толькі напісанае, але і намаляванае застаецца».

Вокладкі каталогаў, якія захаваліся з тых часоў, былі своеасаблівым узорам у фарміраванні нацыянальнага стылю, які быў скіраваны не толькі на агітацыйны і касмапалітычны прынцып формаўтварэння, а і на сінтэз традыцый і супрэматычнага наватарства. У гэтым стылістычным рэчышчы вокладку для Першай Усебеларускай выстаўкі 1925 г. зрабілі сумесна М. Эндэ і А. Тычына. Цэнтральнае поле — белы квадрат і экран будучай прасторы культурнага развіцця, а бардзюры акантоўкі ўключаюць дэкаратыўныя аздабленні пад уплывам слуцкіх паясоў. Як вядома, слуцкі пояс — найвышэйшы сінтэз заходняга і ўсходняга мастацтваў, багацця лаканічных, па-беларуску арганічных і вытанчаных формаў.

Характэрным стылявым афармленнем вокладак часопісаў «Зара Запада»(1919), «Зоркі» (1921), «Маладняк» (1923), «Малады араты» (1922) мастак П. Гуткоўскі абраў геаметрычны малюнак народнага пояска, які акантоўваў кампазіцыю экслібрыса Інбелкульта, марку выдавецтва «Савецкая Беларусь». Найбольш паказальнай была вокладка часопіса «Малады араты» з вобразам Ф. Скарыны на фоне белага квадрата (1925, № 14). Трохкутнікі, квадраты і іншыя геаметрычныя фігуры сталі характэрнай асаблівасцю мастака для вырашэння праграмы нацыянальнага стылю.

Адпаведным узорам можна лічыць і вокладку юбілейнага выдання да 400-годдзя беларускага друку, якую ў 1927 г. аформіла Марына Лебедзева (1895 — 1942) з выкарыстаннем скарынінскіх віньетак і заставак. Свой аўтарскі знак мастачка змясціла на акантоўцы з правага боку, дзе ў трохкутніку літары «М» змешчана графічная выява лебедзя.

Значным мастацка-навуковым дасягненнем можна лічыць удзел М. Лебедзевай у даследаванні помнікаў старажытнага беларускага мастацтва XII ст. у Полацку. Вядома, што разам з М. Шчакаціхіным мастачка ў якасці члена-карэспандэнта Інбелкульта брала ўдзел не толькі ў расчыстцы насценных фрэсак Пятніцкай і Барысаглебскай цэркваў, але і рабіла іх замалёўкі, атрыбутыравала кампазіцыйную тэматыку.

Творчы старт быў успрыняты грамадствам з вялікім захапленнем і надзеяй, што мастацтва будзе рухацца ў развіцці нацыянальных ідэалаў з супрэматычнай хуткасцю.

Менавіта ў творчай біяграфіі выкладчыкаў графічнай майстэрні М. Лебедзевай і М. Эндэ дзейнасць у галіне даследавання, вывучэння і афармлення беларускага нацыянальнага стылю супадала з тымі задачамі, якія ставіў М. Шчакаціхін перад Віцебскім мастацкім тэхнікумам: «злучэнне фармальна-тэхнічнай асветы ў галіне мастацтва з момантам свядомай творчасці ў галіне афармлення нацыянальнага стылю». Той факт, што ў 1926 г. настаўнікі майстэрні малявання бралі з калекцыі Дзяржаўнага музея ўзоры народнага адзення дзеля вывучэння і замалёвак, ёсць доказ даследавання беларускай народнай вопраткі і яе выкарыстання ў афарміцельскіх мэтах. М. Лебедзева арганізавала гурток па вывучэнні свету раслін, урокі праходзілі ў мясцовым парку. Яна актыўна супрацоўнічала з Віцебскім таварыствам краязнаўства, прымала заказы на выкананне эскізаў эмблемы драматычнага тэатра, сцяга мастацкага тэхнікума, герба БССР. Вядомыя факты заказаў Белдзяржвыдавецтва на афармленне кніжных выданняў, плакатаў, календароў.

Але не ўсё было рэалізавана ў складанай палітычнай сітуацыі канца 20 — 30-х гадоў. Міфалагічная пагроза нацдэмаўшчыны правакавала на агрэсіўныя супрацьдзеянні і змушала мастакоў перажываць глыбокую раздвоенасць: ці прыстасоўвацца да іншых задач, ці быць ахвярамі творчага нонканфармізму? Дакументальныя сведчанні дзейнасці стваральнікаў нацыянальнага стылю, не без цяжкасцей здабытыя ў розных архівах і фондах, дазваляюць зрабіць рэканструкцыю жыцця і творчасці гэтага пакалення мастакоў.

Але надыходзілі часы барацьбы з адмоўнымі для сацыялістычнага рэалізму праявамі. Так, у пастанове ЦК КПР(б) Б ад 1932 г. «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР» найбольш значных творчых пошукаў 1920-х гадоў у наступным кантэксце: 1) «левыя» — М. Шагал, К. Малевіч, П. Фальк; 2) ідэалізацыя індывідуальнай гаспадаркі — К. Русецкі, Ф. Гальмаджаян, У. Кудрэвіч, М. Філіповіч і інш.; 3) А. Грубэ, А. Тычына, М. Лебедзева, М. Эндэ, А. Бразер — стылізацыя беларускага арнаменту і вопраткі, што спрыяла рэстаўрацыі і ідэалізацыі старой феадальнай мінуўшчыны, у якой нацдэмы шукалі «беларускага» стылю; 4) М. Аксельрод, А. Касцялянскі, М. Горшман, Л. Зевін, С. Юдовін шукалі буржуазнага фармалізму і праяўлялі яўрэйскі шавінізм; 5) Я, Кругер, М. Керзін, Ю. Пэн, В. Волкаў — прадстаўнікі старога акадэмізму — цягнулі на шлях дарэвалюцыйнага выяўленства; 6) Нацдэмаўскія мастацтваведы, «тэарэтыкі» М. Каспяровіч, М. Шчакаціхін, І. Луцкевіч і інш. усе гэтыя напрамкі замацоўвалі і паглыблялі. Яны стварылі адзіную нацыянальную групу мастакоў…»

Вядома, што знакамітая пастанова стала сапраўднай «расстрэльнай граматай», у выніку чаго Беларусь пакінулі А. Ахола-Вало, Ф. Выхадцаў, Ф. Гальмаджаян, А. Грубэ, М. Лебедзева, М. Філіповіч, М. Эндэ, С. Юдовін і інш. Рэпрэсіям падвергліся мастакі Г. Змудзінскі, Я. Мінін, браты П. і Х. Даркевічы, мастацтвазнаўцы М. Каспяровіч, М. Шчакаціхін, І. Луцкевіч і інш.

Калі зноў перачытваеш друкаваныя матэрыялы пастаноў 1930-х, якія былі практычна пачаткам дзяржаўных рэпрэсій, не перастаеш здзіўляцца той нецярпімасці, якая была скіравана супраць свабоды творчасці. Тым больш асобы, якія пацярпелі ад такой несправядлівасці, сёння выклікаюць павагу, а іх дзейнасць — вялікую цікавасць. Наша культура, якая захавала свой высокі прафесіяналізм і сілкуецца таленавітымі прадстаўнікамі новых пакаленняў, цяпер знаходзіцца на такім этапе развіцця, калі немагчыма абыходзіць увагай этапныя з'явы мастацкай гісторыі, зацемненыя на доўгі час ідэалагічнымі завесамі. Вельмі добра, што ў наш час з'явіліся кнігі, прысвечаныя творчасці класікаў нацыянальнага стылю: «Язэп Драздовіч»(аўтар Н. Усава), «Міхась Філіповіч» (аўтар В. Вайцэхоўская). Але неабходна пашырыць кола мастакоў, такіх, як М. Лебедзева, П. Гуткоўскі, А. Ахола-Вало, Ф. Выхадцаў і М. Эндэ, А. Бразер, якія ў 1920-я гады дапамагалі ствараць сапраўднае і лепшае.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Вікенцій МАХНАЧ, гаспадар аграсядзібы актыўнага тыпу «ВІТА», што на Смаргоншчыне, аматар падарожжаў, краязнаўца, заўзяты прыхільнік здаровага ладу жыцця, распавядае пра этнаграфічны куток, які ён стварыў на сваёй аграсядзібе:**

— «Віта» ў перакладзе з лацінскага — «жыццё». Даючы такую назву сваёй сядзібе, я меў на ўвазе не толькі аздараўленне і стварэнне спрыяльных умоў для актыўнага адпачынку на прыродзе. Не можа быць паўнацэнным жыццё чалавека, які адарваўся ад сваіх каранёў, забыўся пра традыцыі продкаў або проста не ведае нічога пра тых, хто жыў раней на гэтай зямлі, ствараў матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

У музейным пакоі паказаны не проста інтэр'ер вясковай хаты, дзе знайшлі месца прылады побыту і працы сялян. Кожная рэч — своеасаблівы аўтограф маіх продкаў. Ён ёсць паўсюль: на ручніках, посцілках, дыванках, вышыванках маіх бабуль, на калаўроце і іншых прыладах для апрацоўкі лёну, што ўласнаручна вырабіў мой дзядуля. Усё гэта створана з вялікай любоўю, з адказнасцю — так, каб не было сорамна перад нашчадкамі, каб і праз шмат гадоў унукі ці нават праўнукі маглі ганарыцца залатымі рукамі сваіх дзядоў і бабуль. І пераймаць іх майстэрства!

У рамачках пад шклом шмат здымкаў маіх продкаў. Фотакарткі сведчаць: беларускую вёску мінулага і пазамінулага стагоддзяў насялялі зусім не «лапатнікі», а даволі заможныя сяляне-гаспадары. І, дарэчы, не толькі шляхціцы, але і звычайныя вяскоўцы шанавалі свой род, ганарыліся набыткамі працалюбівых, прыстойных і таленавітых прашчураў, імкнуліся перадаць у спадчыну разам з матэрыяльным высокія маральныя якасці.

Побач з аграсядзібай, акурат на ўзвышэнні каля шматлікіх акопаў, што засталіся тут пасля Першай сусветнай вайны, знаходзяцца вялікія камяні-валуны з высечанымі на іх праваслаўнымі крыжамі. Знайшоў я іх у лесе, недалёка ад нашай вёскі Вайнідзеняты. Спачатку думаў, што гэта «помнікі» Першай сусветнай. Вясной — відаць, пад уздзеяннем ападкаў — камяні ачысціліся, і на іх пачалі праступаць крыжы. Пазней дзякуючы прафесіяналам-гісторыкам я даведаўся, што такія рэліквіі могуць адносіцца да значна ранейшых часоў, у прамежку ад XII да XIX стагоддзяў. Гудагайскі ксёндз Казімеж ухваліў маё рашэнне пакінуць камяні на вайсковых пазіцыях былой сусветнай вайны. А крыжы на валунах праяўляюцца ўсё больш.

## «Свет ілюстраваны» — у Гомелі

**Раіса МАРЧУК**

Выстаўка «Паўстанне 1863 — 1864 гг. у гравюрах французскага часопіса «Le Monde illustré» (з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь) праходзіць у дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

У мінулым ёсць падзеі, якія застаюцца цікавымі і актуальнымі для грамадства на доўгія гады. Яны вымушаюць пастаянна звяртацца да тэмы, пераасэнсоўваць яе. Да ліку такіх адносіцца паўстанне 1863 — 1864 гг., якое ўспыхнула на тэрыторыях сучасных Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Гэтыя падзеі значна паўплывалі на гісторыю ўсёй Беларусі, змяніўшы лёсы тысяч яе жыхароў, надаўшы штуршок развіццю беларускага нацыянальнага самаўсведамлення. Яны спрыялі ажыўленню грамадска-палітычных сіл, рэвалюцыйнага руху ва ўсёй Еўропе, Расіі. Выданне «Le Monde illustré» (з французскай — «Свет ілюстраваны» ) — часопіс, які выходзіў штотыдзень у Францыі з 1857 па 1956 год. Звычайна яго артыкулы суправаджаліся багатым візуальным радам. Да 1880-х гг. тэхнічныя асаблівасці друкарскага абсталявання не дазвалялі масава тыражаваць фотаздымкі.

Гравюры выраблялі на падставе рэальных здымкаў з месцаў падзей, замалёвак альбо апісанняў карэспандэнтаў-відавочцаў. Ілюстрацыі суправаджаліся невялікімі паведамленнямі, якія нярэдка былі больш яскравымі і інфарматыўнымі за самі артыкулы.

*Музейны ўнікат*

# Ад цымбалаў да царыцы музыкі



*Цымбалы з фондаў Браслаўскага раённага аб'яднання музеяў. Майстар невядомы (1920 — 1930 гг.).*



*Скрыпка са смыком. Смык з фондаў Браслаўскага раённага аб'яднання музеяў выраблены ў 1931 г. майстрам Ф. Пашукевічам з Глыбоцкага раёна.*

Сярод нашых суайчыннікаў шмат здольных майстроў, якія ствараюць музычныя інструменты і самі віртуозна іграюць на іх. Так вялося спрадвеку.

**Ганна ШАРОХ, фота аўтара**

Першыя музычныя інструменты з'явіліся ў глыбокай старажытнасці, калі першабытны чалавек шляхам удараў або трэння прадмета аб прадмет даваў выхад сваім пачуццям ці, можа, імкнуўся ўзмацніць уздзеянне пэўных заклінанняў. Пазней чалавек шукаў усё новыя і новыя крыніцы гуку, знаходзячы іх не толькі ў навакольным асяроддзі, сярод побытавых прадметаў, але і майструючы адмысловыя гука-шумавыя інструменты. Так нарадзіліся кляшчоткі, бразготкі, трашчоткі, лыжкі, шархуны…

Адзін з самых старажытных — дуда. Амаль да канца XIX ст. яна была вельмі папулярнай на Віцебшчыне. Найстарэйшая беларуская дуда 1877 года захоўваецца ў Лепельскім краязнаўчым музеі.

Дуда выкарыстоўвалася ў абрадах, звязаных з асноўнымі момантамі жыцця чалавека: на хрэсьбінах, вяселлях. Дуда-«весялуха» падыгрывала танцорам, спевакам падчас каляднага і валачобнага абрадаў, кірмашах, паказах батлейкі. Ігралі на дудзе сола і разам са скрыпкай ці цымбаламі, якія сваім гучаннем таксама ўпрыгожвалі жыццё нашых продкаў.

Далучыцца да музычнай гісторыі Віцебшчыны можна ў Полацку, наведаўшы выстаўку беларускіх народных музычных інструментаў «Інструмент народны, і вясёлы, і журботны...» у Музеі традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я, дзе прапануюць не толькі пазнаёміцца з разнастайнымі музычнымі інструментамі, але і паспрабаваць сыграць на іх.

Дарэчы, самым распаўсюджаным музычным інструментам у Беларусі была скрыпка. Невыпадкова з даўніх часоў яна лічыцца ў народзе царыцай музыкі. І сапраўды: без нястомнага музыкі-скрыпача і «свадзьба не ў свадзьбу». Цешыць яна душу, надае здароўя і радасці. Дуда, скрыпка і цымбалы і сёння запатрабаваны ў музычным асяродку.

*Пуцявіны*

# Сям'я Ермаловічаў

**Лявон ЦЕЛЕШ**

Некалі ў вёсцы Малыя Навасёлкі Дзяржынскага раёна жыла працавітая сям'я Ермаловічаў. Галава сям'і — Іван Іванавіч — настаўнік, не меў невялічкі фальваркаў. За савецкім часам ён працаваў у калгасе конюхам, а яго жонка, Стэфка Юр'еўна, — палаводам. Мелі чацвярых дзяцей: дачку Марыю і трох сыноў — Міколу, Леаніда і Валянціна. У 1937 годзе бацьку рэпрэсіравалі, і ён згінуў дзесьці на прасторах расійскай Поўначы (рэабілітаваны ў 1956-м, пасмяротна).

Старэйшы сын Мікола нарадзіўся ў 1921 годзе. Скончыў Дзяржынскую беларускую сярэднюю школу, паступіў на філалагічнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута. На фронт Міколу не ўзялі з-за кепскага зроку. Працаваў настаўнікам у Мардовіі, а пасля вайны — інспектарам райана на Віцебшчыне. Потым зноў вучоба ў педінстытуце. Накіраванне атрымаў у Маладзечна, дзе сем гадоў выкладаў беларускую літаратуру ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. Пасля яго закрыцця загадваў метадычным кабінетам Маладзечанскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

Амаль невідушчы настаўнік Мікола Ермаловіч, не маючы высокіх званняў і вучоных ступеней, прапанаваў нам уласную канцэпцыю ўтварэння на тэрыторыі сённяшняй Беларусі Вялікага Княства Літоўскага. Вынік яго карпатлівай даследчай працы — кнігі «Па слядах аднаго міфа», «Вялікае княства Літоўскае. Беларуская дзяржава», «Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды», «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд». Падчас навуковых даследаванняў жонка Мікалая Іванавіча, Лідзія Цімафееўна, гісторык па прафесіі, была для яго «вачыма»: правіла тэксты, друкавала іх на машынцы. Цяпер кнігі даследчыка можна знайсці, мабыць, у кожнай бібліятэцы Беларусі, а яго канцэпцыя ўтварэння ВКЛ уключана ва ўсе падручнікі.



*Мікола Ермаловіч з жонкай Лідзіяй.*

Вызначыўся Мікола Ермаловіч не толькі як гісторык, але і як паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. На жаль, даследчык трагічна загінуў у Мінску ў 2000 годзе, трапіўшы пад колы машыны. Пахаваны на маладзечанскіх могілках, побач з жонкаю. У Маладзечне яму ўстаноўлены помнік. Нядаўна было прынята рашэнне Дзяржынскага райвыканкама аб наданні адной з вуліц горада імя Міколы Ермаловіча.

Сярэдні брат Ермаловічаў, Леанід, — выдатны педагог і актыўны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Нарадзіўся ён у 1923-м. З самага пачатку вайны быў членам навасёлкаўскай групы дзяржынскага падполля. У лістападзе 1942 года Леанід стаў партызанам атрада «Бальшавік», удзельнічаў у разгроме варожых сіл у вёсках Стаўбцоўскага і Дзяржынскага раёнаў. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалём «Партызану Айчыннай вайны» I ступені і інш.

Пасля вайны Леанід Ермаловіч закончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага і доўгі час выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Вялікіх Навасёлках. Стварыў багаты на экспанаты школьны гісторыка-краязнаўчы музей. Амаль 40 гадоў Леанід Ермаловіч кіраваў школьным драматычным гуртком. Памёр у 2004 годзе, пахаваны на мясцовых могілках.

Малодшы з братоў Ермаловічаў, Валянцін, нарадзіўся ў 1925 годзе. Акцёр, заслужаны работнік культуры Беларусі. Да Вялікай Айчыннай вайны ён закончыў 9 класаў Дзяржынскай беларускай СШ. У 1944 годзе быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. З цяжкімі баямі прайшоў Беларусь, Польшчу, Усходнюю Прусію, Германію. Атрымаў чатыры раненні, нават пэўны час афіцыйна лічыўся загінуўшым. Узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені і 9 медалямі.

Пасля вайны закончыў акцёрскае аддзяленне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Працаваў у Пінскім, затым у Магілёўскім абласным драматычным тэатры. У Магілёўскім культурна-асветніцкім вучылішчы выкладаў асновы рэжысуры і майстэрства акцёра, а з 1978 года быў рэжысёрам Краснапольскага народнага тэатра. Ставіў п'есы і ў іншых установах. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Усесаюзных фестываляў самадзейнай мастацкай творчасці. Памёр Валянцін Ермаловіч у Магілёве, у 2004 годзе.

# Прывітальная песня беларусаў Самары



Беларускі вакальны ансамбль «Каданс» (г. Самара) у Бабруйску.



Ансамбль «Каданс» выступае ў парку Перамогі ў Мінску.



Работа-пераможца конкурсу «Вянок як сімвал фестывалю — у падарунак фэсту».

**Мікалай БОЙКА**

«Музыка — гэта адзіная сусветная мова, якую не трэба перакладаць, бо на ёй душа гаворыць з душою», — заўважыў у свой час Бертольд Авербах. Пацвердзіць словы нямецкага пісьменніка-раманіста могуць і ўдзельнікі XI Міжнароднага фестывалю народнай творчасці «Вянок дружбы», які праходзіў з 27 чэрвеня па 1 ліпеня 2013 года ў Бабруйску. У фестывальных мерапрыемствах узялі ўдзел 33 калектывы з 16 краін свету, якія ператварылі горад у сапраўдную культурную сталіцу Беларусі.

Расійскую Федэрацыю і Самарскую вобласць на гэтым фестывалі прадстаўляў беларускі вакальны ансамбль «Каданс» Самарскай абласной грамадскай арганізацыі беларусаў «Руска-Беларускае Братэрства 2000» (мастацкі кіраўнік Алена Дзмітрыева). Трэба адзначыць, што гэта быў адзіны калектыў беларускага замежжа, які прадстаўляў на фестывалі як беларускія, так і рускія песні.

Вось што распавяла прэзідэнт арганізацыі і кіраўнік дэлегацыі самарскіх беларусаў Ірына Глуская:

— Удзел вакальнага ансамбля «Каданс» у фестывальных мерапрыемствах міжнароднага форуму ў Бабруйску дазволіў паказаць творчы патэнцыял нашага калектыву і пазнаёміцца з дзейнасцю калектываў іншых краін.

Гледачы высока ацанілі выступленне ансамбля «Каданс», а многія выказалі словы ўдзячнасці за захаванне беларускай культуры на Самарскай зямлі.

У рамках фестывалю праводзіўся конкурс «Вянок як сімвал фестывалю — у падарунак фэсту», па выніках якога работа самарскіх беларусаў заняла першае месца.

Напярэдадні Дня Незалежнасці вакальны ансамбль «Каданс» выступіў на сцэне Рэспубліканскага Палаца ветэранаў у Мінску, а 3 ліпеня ўзяў удзел у канцэртнай праграме ў парку Перамогі. Гледачы прымалі калектыў цёпла і гасцінна. Для сустрэчы з самарскімі беларусамі знайшлі час намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік і Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка.

Прайшлі сустрэчы з прадстаўнікамі СМІ і беларускім калектывам «Вербіца». Самарскай абласной грамадскай арганізацыі «Руска-Беларускае Братэрства 2000» перададзена падборка беларускай літаратуры і сувеніраў.

# Паўлюк Багрым. «Я — легенда»

**Пра жыццё і творчасць Паўлюка Багрыма захавалася няшмат дакументальных звестак. Аднак у вёсцы Крошын, што непадалёк ад Баранавіч, добра памятаюць і нават паказваюць месца, дзе стаялі хата і кузня славутага майстра. Апавядаюць і пра тое, што любіў ён сядзець пад старымі разгалістымі вербамі на беразе ракі Шчары.**

**Аксана АНТОНЧЫК**

Паводле легенды, мясцовы пан Станіслаў Юрага ў 1828 годзе задумаў запрыгоніць тутэйшых сялян, якія спрадвеку былі вольнымі людзьмі. Яны ўзбунтаваліся. У хуткім часе ў мястэчка Крашын (старая назва паселішча) прыйшлі салдаты, каб іх уціхамірыць. У тым паўстанні брала ўдзел і сям'я мясцовага каваля Багрыма. Паводле следчых, касцёльная школа з'яўлялася рассаднікам бунтарных ідэй. Мясцовы ксёндз, каб неяк апраўдацца, што школа найперш далучае дзяцей да прыгожага, папрасіў аднаго з вучняў прачытаць следчым свае вершы.

Гэтым юнаком быў Паўлюк Багрым, які прынёс з сабою тры сшыткі твораў, напісаных па-беларуску. Крамола! — палічылі следчыя. Сшыткі з вершамі адабралі і ўзялі з юнака распіску, што ён ніколі больш ні пісаць, ні чытаць вершаў не будзе. А потым Паўлюка здалі ў рэкруты. Амаль тры дзесягоддзі падкоўваў уланскіх коней. Вярнуўся на радзіму старым і адзінокім. Заняўся кавальствам, як і яго бацька. Вызначыўся як таленавіты каваль. Сведчаннем таму — жырандоля незвычайнай прыгажосці, якая да гэтага часу ўпрыгожвае Крашынскі касцёл.

Падсвечнік выкаваны з чыгуну і ліставой бронзы ў выглядзе лёгкага абажурнага падвеса, які складаецца з двух абручоў, што мацуюцца трыма металічнымі жгутамі. Жырандоля мае цікавыя, арыгінальныя ўпрыгожанні: на круглай раме — жаўрукі ў імклівым палёце і бутоны кветак, якія, здаецца, вось-вось распусцяцца. Збоку змешчаны два гербы — «Пагоня» і радавы герб Юрагаў-Завадскіх. Менавіта на жырандолі застаўся сімвал крашынскіх памешчыкаў, многія лічаць, што гэта ёсць герб і самога Крашына.

На верхнім абручы выбіты надпіс: «Павел Багрым выкаваў у Крашыне над Шчарай у 1881 г.». Указана і імя заказчыка: «Замовіў па Бостанскаму ўзору Пётр Святаполк-Завадскі». Жыхары Крашына апавядаюць, што ў часы Першай сусветнай вайны варожыя атрады хадзілі па вёсках і рабавалі не толькі людзей, але і касцёлы. Каб зберагчы жырандолю, вяскоўцы забралі яе з касцёла і апусцілі на дно Шчары. Пасля вайны падсвечнік падянялі і зноў павесілі ў храме.



Жырандоля Паўлюка Багрыма.

Так і жыла б легенда пра каваля-мастака Паўлюка Багрыма з Крашына, каб не адна акалічнасць. Постаць самарода зацікавіла даследчыкаў. Калі Паўлюк адбываў салдатчыну, у далёкім Лондане яго зямляк, адвакат Ян Чачот з Навагрудка апублікаваў кніжачку «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды», дзе і расказаў пра Багрыма да змясціў яго верш «Зайграй, зайграй, хлопчэ малы…». Верш, які сведчыць пра вялікі талент яго аўтара.

Новае слова пра Паўлюка Багрыма сказаў І. Бас у працы «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні» (1969), у якой ён аўтар развеяў легенду пра тое, што Паўлюк Багрым быў звычайным сялянскім хлопчыкам-пастушком. На самай справе ён належаў да досыць адукаваных людзей.

Вядомы даследчык беларускай літаратуры Сцяпан Александровіч, паклаўшы ў аснову знаходкі І. Баса, напісаў краязнаўчы нарыс «Слядамі легенды», які грунтуецца на дакладных звестках. Расказаў і пра кавальскае мастэрства Паўлюка Багрыма на падставе ўспамінаў крашынцаў. Так чалавек з легенды стаў нашым гонарам і сімвалам трагічнага лёсу беларускіх талентаў.

Памяць пра Багрыма захавалася ў Крошыне і ваколіцах. Распавядаюць, што Багрым рабіў у сваёй кузні не толькі нажы, косы, сярпы, замкі ды іншыя гаспадарчыя прылады, а мог аздобіць паляўнічую стрэльбу і ўпрыгожыць кінжал. Не раз даводзілася чуць пра здарэнне, якое мела, відаць, рэальную падставу. Розныя апавядальнікі перадаюць яго па-свойму: у адных падзеі адбываліся ў маёнтку Радзівіла, у другіх — Завадскага, у адных Багрым рабіў сцізорык, у другіх — брытву. Але сутнасць падання зводзіцца да наступнага.

Аднойчы Багрым прынёс пану вельмі моцны і хітра зроблены замок. Паглядзеў пан на работу ды кажа: «Ты — хвацкі майстар, але такую штуку, відаць, не зможаш вырабіць» — і падаў Паўлюку сцізорык, дзе было многа ножычкаў ды розных іншых прылад. Паглядзеў той на панскі сцізорык, пакруціў у руках, пільна разглядаючы яго, і сказаў: «Дайце мне тыдзень, я паспрабую».

Мінуў тыдзень, прыходзіць Багрым да пана і кладзе на стол два сцізорыкі, адзін у адзін, не адрозніш. «Бярыце, пане, але толькі свой», — прамовіў, пасміхнуўшыся ў сівы вус, майстар.

Глядзеў пан доўга, прыглядаўся, пасля — цап, як здавалася, за лепшы, расклаў ножык і ўбачыў, што там, дзе павінна быць марка замежнай фірмы, красуецца надпіс: «П. Багрым, Крошын». Дзівіўся пан, ахаў у захапленні, круціў галавой…

Мінула шмат гадоў, як памёр Паўлюк Багрым, але ў памяці землякоў жыве паэтычная легенда пра яго.

# «Славянскі базар у Віцебску»: новы фармат

**Учора стартаваў XXII Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Па 15 ліпеня гэты, адзін з самых вядомых у свеце, фэст будзе «правіць баль» у старажытным горадзе, у эфіры беларускіх і многіх замежных тэлеканалаў.**

**Аляксандр ПУКШАНСКІ**

Пра тое, што фестываль пройдзе ў новым фармаце, пачалі гаварыць задоўга да яго афіцыйнага старту. Яшчэ ў пачатку года Кіраўнік дзяржавы падчас сустрэчы з прадстаўнікамі СМІ адзначыў, што фестывалю патрэбны змены. Сапраўды, многія жыхары Віцебска часцяком заўважалі: «базар» быў такім жа, як летась, а хочацца чагосьці новага! Пры гэтым колькасць рэалізаваных білетаў, заўважым, у апошнія гады ўпэўнена павялічваецца. Старшыня аргкамітэта фестывалю, намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік напрыканцы чэрвеня азнаёміўся з тым, як Віцебск рыхтуецца да свята. Ён адзначыў: «Ёсць падставы меркаваць, што ў бліжэйшыя 3 — 4 гады фестываль можа выйсці на самаакупнасць. На сённяшні дзень прыкладна 73 — 74 % бюджэту фестывалю — грошы, заробленыя самім фэстам».

Член аргкамітэта фестывалю, міністр культуры нашай краіны Барыс Святлоў тады ж выказаў думку, што менавіта навізна штогод будзе спрыяць самаакупнасці і дазволіць зрабіць фэст доўгачаканай падзеяй для ўсіх гледачоў. Фестываль павінен сканцэнтравацца ў часе і прасторы. Таму сёлета афіцыйная праграма скарочана да 5 дзён. Для больш эфектнага паказу па тэлебачанні выкарыстаны новыя мастацкія рашэнні ў афармленні сцэны амфітэатра: з Масквы былі прывезены, а потым змантыраваны дэкарацыі і светлавыя прыборы.

На цырымонію адкрыцця «базару» арганізатары запрасілі Эдзіту П'еху, Надзею Бабкіну і ансамбль «Руская песня», Аляксандра Малініна, Аляксандра Сярова, Крысціну Арбакайтэ ды іншых расійскіх зорак. Ну і, зразумела, айчынных — Анатоля Ярмоленку і ансамбль «Сябры», Іну Афанасьеву, Алёну Ланскую і г. д. Выступілі майстры мастацтваў з Украіны, Казахстана, Даніі, Італіі, Францыі…

Традыцыйна ў дзень адкрыцця фестывалю на «Алеі зорак» ля Летняга амфітэатра адкрылася імянная зорка ўладальніка спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення». Уганараваная ёй Эдзіта П'еха. Летась, нагадаю, «зорным» стаў Леў Лешчанка, а самым першым — у 2005 годзе — кампазітар Андрэй Пятроў. Ёсць зоркі Ратару, Пугачовай, Уладзіміра Мулявіна… Цікава, што перад пачаткам «базару» зорную алею рэканструявалі.

Яшчэ адна навінка сёлетняга фэсту — прэзентацыя ў Летнім амфітэатры падчас цырымоніі адкрыцця ўдзельнікаў XXII Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2013» і XI Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск-2013». Паводле новага дырэктара фестывалю Аляксандра Сідарэнкі, «мы робім акцэнт на гэтыя падзеі з самага першага дня фестывалю». Цяпер уручэнне Гран-пры пераможцам будзе праходзіць не ў камерным фармаце, а на гала-канцэрце закрыцця «Славянскага базару ў Віцебску».

Дарэчы, Беларусь у дзіцячым конкурсе прадстаўляюць дзве 11-гадовыя дзяўчынкі з Мінска: Апалінарыя (Паліна Бурло) і Аляксандра Лакціёнава.

А жараб'ёўка дарослых удзельнікаў адбудзецца сёння ў Віцебскай абласной філармоніі. За Беларусь выступіць артыст Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Аляксандр Салаўёў з Маладзечна. Журы дзіцячага і дарослага конкурсаў адпаведна ўзначаляць народны артыст Беларусі Аляксандр Ціхановіч і народная артыстка Расіі Ларыса Доліна.

Што да іншых змен, не будзе нацыянальных дзён з канцэртамі прадстаўнікоў культуры краін-заснавальніц фэсту. А замест іх сёння ў Летнім амфітэатры адбудзецца «Канцэрт дружбы. Саюзная дзяржава запрашае».

Па-ранейшаму фэст прапануе гасцям наведаць тэатры, кіназалы, выстаўкі «Горад майстроў», кірмаш прадстаўнікоў бізнесу…

Па традыцыі падчас фестывалю ўжо чацвёрты год паміж Мінскам і Віцебскам будзе курсіраваць спецыяльны «фестывальны» цягнік. Ужо ў цягніку пасажыры змогуць даведацца, куды завітаць, каб адчуць непаўторную атмасферу фестывалю.

# ...і ў Вечнасці разам

**Таццяна ШЫМУК**

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка «Былое ў думках ускрашаць…», прымеркаваная да 100-годдзя напісання Янкам Купалам рамантычных паэм. Наведвальнікі (а ім пашчасціла, бо выстаўка працавала толькі суткі) змаглі на ўласныя вочы ўбачыць арыгінал «Бандароўны», рукапіс «Яна і я», асобнае выданне паэмы «Магіла льва». Гэтыя творы літаратуры займелі шырокі водгук і сярод мастакоў, і сярод кампазітараў ды кінематаграфістаў. Усе тры паэмы перакладаліся на розныя мовы свету. Менавіта ў гэтых творах Янка Купала апісвае мінуўшчыну і набліжае яе да нашых дзён.

Стагоддзе паэм у музеі Паэта працягнула прэм'ера хранікальна-дакументальнага фільма «Два яблыкі на адной галінцы». Пра стасункі Купалы і Коласа: прыгожыя і... складаныя. Пра тое, як жылі, чым захапляліся, што адчувалі гэтыя асобы. Кінастужка была знята Беларускім відэацэнтрам (рэжысёр Сяргей Лук'янчык) па ініцыятыве Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. У аснове — успаміны сяброў, літаратуразнаўцаў, саміх пісьменнікаў адзін пра аднаго. Назва запісана са слоў Коласа: «Два яблыкі на адной галінцы. Кожнае каштоўнае па-свойму, але дзякуй богу, што іх два, бо яны ўзбагачаюць кожнага з нас».

Дзве асобы, якія нарадзіліся ў адзін час, але не такімі і бязвоблачнымі былі іх адносіны. У апошнія гады з'явілася нават згадка, што яны ўвогуле перасталі кантактаваць.

1912 год — першая сустрэча Якуба Коласа і Янкі Купалы. Пазней Іван Дамінікавіч не раз успамінаў сваё падарожжа са Стоўбцаў да Смольні. Дарога была блытаная і «большай часцю праходзіла лесам з рознымі адгаліненнямі дарог і дарожак управа і ўлева». Сустрэча атрымалася цёплая і змястоўная.

Фота Наталлі Купрэвіч



Фота Наталлі Купрэвіч



Пачатак сяброўства ўсё ж трэба звязваць з пераездам сям'і настаўніка Канстанціна Міцкевіча ў Мінск. Янка Купала, які таксама няшала павандраваў, прыехаў сюды раней. З гэтага часу народныя паэты сустракаюцца надзвычай часта. Яны прысутнічаюць на розных нарадах, сходах, бяруць удзел у сесіях, вечарах, завітваюць адзін да аднаго ў госці, чытаюць вершы, спяваюць песні. Абодва любілі шахматы, але з-за таго, што Купала гуляў крыху лепш, часам сварыліся і пераставалі на вечар размаўляць. Звычайна пасля такіх выпадкаў Купала выходзіў ад Коласа са словамі: «Нам з табой сёння вельмі добра маўчалася».

Янка Купала любіў з густам апранацца, добра разбіраўся ў далікатэсных стравах. Унутранымі пачуццямі і перажываннямі ніколі не дзяліўся, усё насіў у сабе, а потым увасабляў у творчасці.

Якуб Колас быў з сялянскай сям'і, не любіў модных рэчаў, апранаўся больш сціпла, нават старамодна. Ніколі не карыстаўся аўтаручкай, толькі пяром і чарнілам. Насіў кішэнны гадзіннік, наручных не прызнаваў.

У 1930-я гады творцаў рэгулярна выклікалі на допыты, было не да сяброўскіх спатканняў. З пачаткам вайны пісьменнікі пакінулі Беларусь, якая была цалкам захоплена ворагам. Сувязь іх перарвалася, калі Якуб Колас з'ехаў у Ташкент. Не наканавана было Янку Купалу дажыць да Перамогі: 28 чэрвеня 1942 года паэт трагічна загінуў. Яшчэ не ведаючы праўды, Колас у гэты дзень піша ліст, што прыедзе на сустрэчу з сябрам. Калі прыехаў на радзіму, то ў першую чаргу наведаў сваю і Купалаву сядзібы.

Лёсы Янкі Купалы і Якуба Коласа склаліся па-рознаму, але яны назаўжды разам з намі.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:** галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:** публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2584
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.07.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2945
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686